НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 39 (780) 24 кастрычніка 2012 www.nn.by

# Наша Ніва

П е р ш а я б е л а р у с к а я г а з е т а

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Марат Новікаў

Як дырэктар універсама стаў уласнікам двух заводаў. Старонка 5.



## Зняць аднапакаёўку за 100 баксаў у Мінску

Што такое дзяржаўнае арэнднае жыллё і як яго атрымаць. Старонка 7.



# Ля Курапат будуюць мегарэстаран «Бульбашъ-хол»

У рэстаране будзе **400 месцаў**, лазня, домікі. **Старонка 7.**




ГАННА ЖУРАВІНА

Тэндэнцыі

## Інтэрнэт-выбары лідара апазіцыі? Нізы за, вярхі супраць

У Расіі апазіцыя правяла інтэрнэт-выбары лідараў. Як Вы лічыце, ці варта беларускай апазіцыі выкарыстаць тую самую працэдуру для выбараў кавардынуючага органа і ў будучыні кандыдатаў на выбары? У Расіі для гэтага была працэдура рэгістрацыі і верыфікацыі выбарцаў. Людзі рэгістраваліся па пашпартах або дасылалі праз інтэрнэт копіі пашпартоў, кожнаму чалавеку прысвойваўся электронны код, па якім ён мог прагаласаваць толькі аднойчы. Як Вы думаеце, гэта прымальны для Беларусі варыянт?

**Андрэй Пачобут**, журналіст, актывіст польскай нацменшасці: Ноу-хау, якія выкарыстоўвае апазіцыя ў адной аўтарытарнай краіне, часта бярэцца на ўзбраенне падобнымі рухамі ў іншых краінах. Думаю, варта ўважліва прыглядзецца да расійскага спосабу. Патрэбна толькі спалучэнне асабістай прыстойнасці з ведамі сучасных тэхналогій у патэнцыйных арганізатараў такога працэсу. Але варта памятаць, што вядомасць і папулярнасць у інтэрнэце не заўсёды азначаюць уплывовасці ў рэале.

**Віталь Амяльковіч**, грамадскі актывіст, Слуцк: Ідэя добрая, але, баюся, рэжым выкарыстае тэхнічныя сродкі, каб сарваць такія выбары: будуць атакі на інтэрнэт-рэсурсы, укід кампрамату на прэтэндэнтаў і чальцоў таго ж ЦВК, банальныя затрыманні напярэдадні нейкіх значных выступаў ці акцыяў.

**Працяг на старонцы 3.**

Палітыка

### Лукашэнка на полі цудаў

У інтэрв'ю Лукашэнка не выказаўся толькі пра групавы сэкс. **Старонка 2.**



Шоу-біз

### N.R.M. без Вольскага хоча паехаць на «Еўрабачанне»

Піт Паўлаў лічыць, што мае шанцы на перамогу. **Старонка 7.**



Прадмесці Мінска

### Астрашыцкі Гарадок

змяніўся са з'яўленнем зорнага вучня. **Старонка 9.**



Гучная справа

### Мянцюк па амністыі выйшаў на волю

Каб славіць яго, стварылі «жывы шчыт» з машын. **Старонка 10.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Поле цудаў Аляксандра Лукашэнкі

Кіраўнік Беларусі за мінулы тыдзень выказаўся пра ўсё, нават пра **групавы сэкс**.

Лукашэнка даў два вялікія інтэрв'ю. Спачатку брытанскай газеце «Індэпэндэнт» і тэлеканалу «Бі-бі-сі», а пасля традыцыйную прэс-канферэнцыю для рэгіянальных расійскіх журналістаў, якія ўсё больш нагадваюць капітал-шоу Леаніда Якубовіча. Той жа набор: вітанні ад губернатараў, падарункі ад якуцкіх журналістаў, вырабленыя з конскага хваста, у Музей праграмы, прабачце, дзяржаўнасці.

Тым не менш, нават сярод гэтай рытуальшчыны і пахвальбы можна разгледзець ключавыя моманты для развіцця краіны. Куды будзе рухацца Беларусь, ці чакаюцца нейкія змены.

### Курс на інтэграцыю нязменны

Лукашэнка трымаўся ўпэўнена, хай і не зусім усё проста на ўсходнім накірунку. Праблема з растваральнікамі і разбаўляльнікамі не вырашана. Чакаюцца складаныя перамовы аб рээкспарце і працэсінгу паліва — галоўнай крыніцы грошай для лукашэнкаўцаў.

Тым не менш, беларускі лідар не выдаваў ніякага хвалявання. З яго выступаў можна зразумець, што цяжкасці ўпрымаюцца ім як часовыя. Усё адно беларусам і расейцам «наканавана быць разам».

Палымянай любові ў прамове таксама не было. Раней Лукашэнка мог бы і ўпікнуць, што расейцы «нас не нахіляць». Цяпер жа значная прэтэнзія была толькі адна — Расія не хоча падпускаць Беларусь да сваіх нафтавых радовішчаў. За гэта шчодры Лукашэнка нават гатовы аддаць беларускія НПЗ.

«Вядома, для Беларусі гэта было б выгадна, — кажа эканаміст Сяргей Чалы. — Але пытанне ў вялікіх грошах. Расія падпускае замежныя кампаніі толькі да тых радовішчаў, якія не можа распрацоўваць сама. Тут можна зразумець як словы Лукашэнкі, так і пазіцыю Расіі. Ёсць адкрытыя тэндары, у якіх Беларусь можа ўдзельнічаць на агульных умовах».

У цэлым жа Лукашэнка неаднаразова падкрэсліваў, што курс на далейшую еўразійскую інтэграцыю застаецца нязменным. Гэта потым яшчэ ў розных варыянтах паўтаралі дзяржаўныя тэле- і радыёканалы.

### Еўропе не ствараем праблем

Што датычыць Еўропы, то і тут ніякай агрэсіўнасці ў рыторыцы кіраўніка краіны не было, хай за дзень да гэтага Еўрасаюз працягнуў санкцыі супраць чыноўнікаў і бізнэсмэнаў яшчэ на год. Нам трэба супрацоўнічаць, казаў Лукашэнка, некалькі разоў падкрэсліваючы, што экспарт у Еўропу большы, чым у Расію.

«Мы не ствараем суседзям праблем», — казаў кіраўнік дзяржавы ў інтэрв'ю «Індэпэндэнт». Ён таксама некалькі разоў заўважыў як вялікі плюс, што Беларусь застаецца незалежнай краінай.

Еўропа ж даўно абазначыла ўмовы для таго, каб супрацоўніцтва наладзілася. Вызваленне палітвязняў, справядлівыя выбары. Пакуль гэтага ў краіне няма, то і не трэба разводзіць рукі ўбакі.

На палітычную мадэрнізацыю, якая заключаецца ў ператварэнні «Белай Русі» з грамадскай арганізацыі ў «сацыялістычную» партыю, Захад наўрад ці купіцца. Як і на запалохванне адкрытай граніцы з Беларуссю, праз якую пойдуць нелегалы з Афганістана. У ахове сваёй мяжы Еўропа спадзяецца толькі на сябе. А калі не хочаце нармалізацыі адносінаў — ваша справа. Брусэль гатовы пачакаць.

### Жабрачка ў Брэсцкай крэпасці

Нярэдка кажуць, што падчас такіх прэс-тураў журналістам паказваюць пацёмкінскія вёскі. На гэты раз расійскія рэгіяналы змаглі ўбачыць не толькі гэта. У Брэсцкай крэпасці яны сутыкнуліся з жанчынай, што прасіць міласціну.

«Гэта такі разрыў шаблонаў. Расіян павезлі ў Брэсцкую крэпасць, каб яны праніклíся геразмам народа, а там яны пабачылі адваротны бок краіны», — кажа блогер Віктар Малішэўскі.

### Лукашэнка клянецца

У інтэрв'ю брытанцам Лукашэнка стараўся быць крайне шчырым. «Я вам клянуся, у мяне ніколі не было амбіцый стаць прэзідэнтам саюзнай дзяржавы», «Я вам клянуся, што быў пасярэднікам між Бушам і Хусэйнам». Другая фраза магла б стаць сенсацыяй, але ніхто яе ўсур'ёз, здаецца, не ўспрыняў. «Крый мяне Божа, каб Коля стаў прэзідэнтам. Клянуся, што я ніколі, ніколі пра гэта нават не думаў! Гэта глупства поўнае!» — казаў Лукашэнка.

«Ваш Кэмеран — гэта пацан, ён яшчэ без года тыдзень у гэтай палітыцы. Акрамя балбатні, ён жа нічога, мусіць, і ў жыцці не зрабіў», — так ацаніў Лукашэнка свайго брытанскага калегу, кіраўніка адной з наймацнейшых эканомік свету.

Папыталіся ў Лукашэнкі нават пра групавы сэкс. «У мяне няма меркавання наконт групавога сэксу», — адказаў кіраўнік.

Унутры краіны курс на аўтарытарызм не будзе зменены. Палітычныя пытанні хвалююць Лукашэнку заўважна меней, чым эканамічныя. Адносіны з Расіяй разглядаюць хутчэй як непазбежныя, хай і непрыемныя, але рабочыя моманты. З Еўрасаюзам складаней, але і тут застаюцца спадзяванні на лепшае. На полі цудаў бывае рознае.

**Зміцер Панкавец**

### Сціісла

**У банках дэфіцыт ліквіднасці**

Нацбанк паслядоўна стараецца ўтрымаць рубель ад дэвальвацыі. Ён спыніў лішняе крэдытаванне дзяржаўных банкаў. Аднак гэта мела адваротны эфект: у панядзелак сярэднеўзважаная стаўка па аднадзённых міжбанкаўскіх крэдытах вырасла да 62% гадавых.

Гэта значыць, што банкам бракавала рублёў. Яны нават прадавалі валютныя рэзервы, каб папоўніць дэфіцыт рублёвай масы. Дзяржбанкі працягваюць прасіць рублёвай падтрымкі ад Нацбанка. Між тым Нацбанк баіцца, што выдзеленыя рэсурсы ўрэшце пойдуць на куплю валюты.

Дэвальвацыйныя чаканні застаюцца высокімі, пакуль захоўваецца няяснасць з рэжымам паставак нафты ў Беларусь у 2013-м — асноўнай крыніцы валютных даходаў краіны. У чацвер гэта маюць абмеркаваць віцэ-прэм'еры Беларусі і Расіі Сямашка і Дварковіч.

**Маразы і мокры снег**

Зіма блізка. У канцы гэтага тыдня ў краіне магчымы мокры снег. А на наступным — ударыць першыя маразы. Варта адзначыць, што гэтая восень была вельмі цёплай.

**СГ**

### Самае чытанае на nn.by за 17—23 кастрычніка 2012

1. Лукашэнка прапанаваў Расіі нафтазаводы ўзамен за радовішчы і прызнаў палітвязняў
2. Уладальнік «Спартака» Марат Новікаў: «Такога няма нават у Венесуэле і на Кубе»
3. Антон Сурапін: Я не веру ў каханне, я веру ў сэкс
4. Як Лукашэнка выглядае ў жыцці і як на старонках «Советской Белоруссии» — фота
5. Абодва кіроўцы Lamborghini і «Жыгулёў», што сутыкнуліся ў Баранавічах, былі на чужых машынах
6. Замежныя студэнты ў Мінску: «Вы павінны мяне тут трымаць»
7. Маладафронтаўка. Унікальная гісторыя, якая магла адбыцца толькі ў Беларусі
8. І што ж мы прайгралі?
9. Маладая мастачка Насця Майстрэнка, на лячэнне якой збіралі грошы ў Белнэце, памерла
10. Вядучы Дзяніс Кур'ян сышоў з БТ



PHOTO.BY.MEDIA.NET

**Фотафакт**

**Новыя палаты**

На мінулым тыдні першыя пасяджэнні прайшлі ў палаце прадстаўнікоў і савеце рэспублікі. Шэрагі палат аднавіліся, але ў змене працы гэта наўрад ці адаб'ецца. Мінулая палата прадстаўнікоў самастойна ініцыявала толькі адзін закон. Спікерамі савета рэспублікі і палаты прадстаўнікоў пераабраныя Уладзімір Андрэйчанка і Анатоль Рубінаў адпаведна.

# Мінпрацы прапануе павысіць пенсійны век

Пра гэта ў інтэрв'ю газеце «Рэспубліка» сказаў намеснік міністра працы **Валерый Кавалькоў**.

«Скажам так, усе выдатна разумеюць, што мы стаім перад неабходнасцю павышэння пенсійнага веку, — сказаў Кавалькоў. — Дзейны ў рэспубліцы пенсійны век (55 гадоў для жанчын і 60 гадоў для мужчын) усталяваны яшчэ ў 1956 годзе. У той час на пенсію па старасці ішлі людзі, якія перажылі калектывізацыю, вайну, цяжкія пасляваенныя гады. Фізічныя і псіхалагічныя нагрузкі, якія выпалі на долю гэтых людзей, не маглі не адбіцца на стане іх здароўя, а такім чынам, і працаздольнасці. У той час такі пенсійны век быў апраўданы».

Між тым статыстыка кажа, што сярэдняя працягласць жыцця ад 1956 года ў Беларусі практычна не змянілася. У жанчын яна трохі вырасла, а ў мужчын нават скарацілася: стрэсы і алкаголь робяць сваё. Таму, калі падняць век, то ці застануцца пенсіянеры?

Так, у Еўропе людзі выходзяць на пенсію пазней. Але там і працягласць жыцця гадоў на 10 большая, чым у Беларусі.

**Мікола Бугай**

# Інтэрнэт-выбары лідара апазіцыі? Нізы за, вярхі супраць

Працяг са старонкі 1.

**Юрась Губарэвіч**, намеснік старшыні Руху «За Свабоду»: Думаю, варта прыдумаць нешта новае — тое, што дазволіць трансфармаваць інтэрнэт-галасы ў рэальную працу каманды і рост колькасці сяброў апазіцыйных арганізацый. Інакш і без таго ізаляваная ад грамадства апазіцыя рызыкуе назаўжды застацца ў віртуальнай прасторы.

**Аляксандр Фядута**, каардынатар кампаніі «Гавары праўду»: Расія — краіна вялікая, і іншай магчымасці, як галасаванне праз інтэрнэт, амаль што няма. З майго пункту гледжання, абіраць будучага кандыдата ў прэзідэнты — адзінага, на мой погляд, кандыдата — павінны менавіта тыя, хто будуць пасля збіраць подпісы, распаўсюджваць улёткі, стаяць у пікетах, працаваць у перадвыбарчых рэгіянальных штабах. У нас шмат паважаных людзей з апазіцыйнымі поглядамі, але ж напярэдадні такое супрацьстаянне, падчас якога абіраць генерала павінна пяхота. Колькі штыкоў цябе падтрымаюць, столькі галасоў ты і атрымаеш. А каб даведацца пра колькасць штыкоў, трэба прайсці праз перадвыбарчую кампанію — напрыклад, праз мясцовыя выбары. Тады і паглядзім, хто ёсць хто і хто можа быць адзіным кандыдатам. Пачакаем трошкі. Час ёсць.

**Віктар Карняенка**, каардынатар кампаніі «За справядлівыя выбары»: Каардынуючы орган патрэбен для вырашэння канкрэтных палітычных задач, напрыклад, вызначэння ад апазіцыі кандыдата на прэзідэнты. Не адзін ужо такія органы ствараліся, праўда, шляхам дэлегавання ў яго паўнамоцных прадстаўнікоў структур, якія пагаджаліся нешта зрабіць разам. Таму першаснае пытанне — ці гатовы тут шукаць згоду палітычныя лідары альбо яны і ў 2015 годзе будуць клапаціцца пра ўласныя рэйтынгі, «умацаванне» сваіх структурак ці як «самазахавацца» да лепшых часоў. Калі гатовы, і гэта пацвярджаецца на практыцы, то механізмы каардынацыі могуць быць самыя розныя, у тым ліку і ў расійскім варыянце. Без канкрэтнай мэты стварэнне нейкіх надбудоваў застанецца гульнёй. У нас ужо былі і «кіраўнік дзяржавы», і «генпракурор у выгнанні», і нават цэлы паралельны парламент. І што яно нам дало?

Калі браць арганізацыю альтэрнатыўнага галасавання, то заўсёды ў такіх выпадках паўстае патанне даверу да такіх «выбарчых камісій». Магчыма, для падвышэння даверу да працэдуры трэба прасіць далучыцца да гэтай справы нашых маральных аўтарытэтаў: Святлану Алексіевіч, Уладзіміра Арлова ды іншых.

**Сяргей Салаш**, грамадскі актывіст, Барысаў: Калі б раптам была агульная згода на такі механізм, то электроннае галасаванне мела б сэнс. Праўда, на такое галасаванне не пагодзяцца «адвечныя дзеячы» і аўтсайдары. Што да арганізатара выбараў, то я б «Ліпковічу» (папулярны блогер) якомусьці даверыў бы працу са сканамі пашпартоў. Іншым — не. Падлікі павінны рабіць людзі, якія не маюць зацікаўленасці ў той ці іншай палітычнай групы.

**Зміцер Салаўёў**, інжынер-будаўнік, праваабаронца: На маю думку, расійская методыка можа быць выкарыстана ў якасці праймерыз — вызначэння прыкладнага рэйтынгу патэнцыйнага кандыдата. Але тут ёсць свае абмежаванні. Пры галасаванні на офісах апазіцыйных структур і з выкарыстаннем інтэрнэт-рэсурсаў да ўдзелу будуць прыцягнуты толькі пэўныя сацыяльныя групы (актывісты апазіцыі, студэнты, офісныя супрацоўнікі), у той час як іншыя сацыяльныя групы будуць менш прадстаўленыя. Дый застаецца пытанне бяспекі для выключэння фальсіфікацый. Няпроста пракантраляваць, хто насамрэч галасуе, бо коды можна і перахапіць. А доступ да копій пашпартоў і пашпартных звестак даволі шырокі — мы пакідаем дадзеныя шмат дзе: у банках і ЖЭСах, напрыклад.

**Іван Шыла,** студэнт: Варта, безумоўна. Калі рэалізаваць такое, адбудзецца немагчымае, апазіцыя аб'яднаецца. А сама кампанія па арганізацыі выбараў — добрая нагода праверыць жыццяздольнасць структур. І наогул, у расейскай апазіцыі шмат ідэяў, якія варта было б выкарыстоўваць. Калі гаварыць пра галасаванні, то гэта выбары прамоўцаў на мітынгах. А якія жывыя там аргкамітэты масавых акцый! Нашыя ж даўно нічога супольнага з гэтым не маюць.

Варыянты з электроннай рэгістрацыяй выбарцаў прымальныя. Даўно пара разумець, што, калі гаворка ідзе пра сотні і тысячы асобаў, рэпрэсіі супраць такой колькасці людзей немагчымы.

Утварэнне ЦВК можна было б даручыць тым жа праваабаронцам-вясноўцам — у іх ёсць досвед арганізацыйнай працы ў межах краіны і высокі давер з боку ўсіх патэнцыйна зацікаўленых суб'ектаў.

**Мікола Бугай**

# А перамог цэнтрыст Навальны

У Расіі **апазіцыя правяла выбары** ў Каардынацыйную Раду.

Гаворка не пра Зюганава з Жырыноўскім, а пра рэальную апазіцыю. Тую, якую не падпускаюць да Думы і на Першы канал. Каб атрымаць легітымных лідараў, апазіцыя вырашыла правесці выбары. Галасаваць можна было ў асяродках незалежнага грамадства і праз інтэрнэт — у гэтым была фішка і навацыя.

Апазіцыйных сядзібаў няшмат, і іх лёгка было прыкрыць. А вось інтэрнэт-галасаванне было даступным у кожным кутку Расіі. Яго спрабавалі заблакаваць ddos-атакамі — але арганізатары адбілі іх. Гэтыя выбары сталі вынікам развіцця інтэрнэту і інтэрнэт-СМІ.

Усяго ў гэтых выбарах узяла ўдзел 81 тысяча чалавек. Варта адзначыць, што для ўдзелу ў галасаванні трэ было зарэгістравацца ў Цэнтральнай выбарнай камісіі. На рэгістрацыю падалі крыху больш за 170 тысяч чалавек, з іх было верыфікавана (гэта значыць дапушчана да галасавання) 98000 выбаршчыкаў. Астатнія аказаліся мёртвымі душамі — выбарцам мусова было пацвердзіць сваю асобу.

Галасаванне ішло па чатырох спісах: агульнаграмадзянскім, за які галасавалі ўсе і ў якім выбіралі 30 дэпутатаў, а таксама ў ліберальным, левым і нацыяналістычным спісах. Тут за адпаведны спіс галасавалі толькі выбаршчыкі, якія зарэгістраваліся, адпаведна, як лібералы, левыя або нацыяналісты. Па гэтых спісах выбіралі 5 дэпутатаў ад кожнага.

У выніку такой сістэмы было гарантавана прадстаўніцтва розных палітычных плыняў апазіцыі ў Каардынацыйнай радзе.

Арганізатары выбараў паспрабавалі перанесці на расейскую глебу вопыт партыйных перадвыбараў з ЗША. Там, як вядома, спачатку адбываецца адбор унутры палітычнай партыі (дэмакратаў ці рэспубліканцаў, якія дэ-факта ўяўляюць сабой шырокія, разнародныя кааліцыі розных плыняў і груповак), а пасля ўжо дзве партыі спаборнічаюць між сабой.

У Амерыцы перадвыбары праходзяць з дапамогай агульных выбарчых камісій. У Расіі ж апазіцыі прыйшлося дзейнічаць ва ўмовах ціску і несвабоды.

81 тысяча чалавек, якія ўзялі ў іх удзел, — гэта мала ці шмат? Давайце спраектуем на Беларусь. Расія ў 15 разоў большая за нашу краіну. Іх 80 тысяч — гэта як тысяч 5–6 у нас.

Відаць, у выпадку арганізацыі такіх выбараў у Беларусі на апазіцыйныя ўчасткі прыйшло б больш людзей, нягледзячы на тое, што ў нас дыктатура. Нават у ініцыятыўных групах апазіцыйных кандыдатаў у нас звычайна 10—15 тысяч удзельнікаў. А тут жа — проста прагаласаваць, а не збіраць подпісы. Але і расійская лічба — грунтоўная база для адбору.

Усяго было вылучана 209 кандыдатаў. Каб стаць кандыдатам, трэ было ўнесці ў выбарчы фонд ахвяраванне — 10 тысяч рублёў (каля трох мільёнаў на беларускія). За гэтыя кандыдацкія грошы ўдалося прафінансаваць дзейнасць выбаркама і ўчасткаў. Былі створаны Цэнтральны выбарны камітэт.

Выбары адбыліся ў суботу-нядзелю, але з прычыны хакерскіх атак на сайт апазіцыйнага выбаркама інтэрнэт-галасаванне падоўжылі да панядзелка. Большасць афлайнавых участкаў месцілася ў вялікіх гарадах. Некалькі такіх участкаў адкрыла эміграцыя за мяжой. А вось анлайн можна было прагаласаваць з любога месца. У прынцыпе, надзейная ідэнтыфікацыя асобы і надзейнасць інтэрнэт-галасавання, абароненасць яго ад маніпуляцый і стала прычынай удачы гэтых выбараў.



Новы лідар расійскай апазіцыі Аляксей Навальны.

Хто ж перамог?

Першае месца ў агульнаграмадзянскім спісе з 43 тысячамі галасоў заняў Аляксей Навальны — новая зорка расійскай палітыкі — блогер, які выявіў не адну махінацыю чыноўнікаў з дзяржаўнымі грашыма. У тройку лідараў увайшлі таксама літаратар Дзмітрый Быкаў і экс-чэмпіён свету па шахматах Гары Каспараў. На 4-м месцы харызматычная тэлевядучая Ксеня Сабчак — дачка вядомага палітыка 90-х, які, дарэчы, прывёў у вялікую палітыку Уладзіміра Пуціна.

Сярод іншых знакавых постацяў у будучай Радзе — Барыс Нямцоў (16 месца на выбарах), Андрэй Ілларыёнаў (19), Удальцоў (20), Уладзімір Тор (5-е месца ў нацыяналістычным спісе).

Дарэчы, медыйная раскрутка зусім не гарантавала перамогі. Перадвыбарныя дэбаты на інтэрнэт-канале «Дождж» выявілі моцныя і слабыя бакі прэтэндэнтаў. Але самае галоўнае, што выбары адбыліся і аказаліся цікавым пачынаннем.

Можна меркаваць, што ў Беларусі спроба арганізацыі такіх выбараў сутыкнулася б з нашмат большым процідзеяннем уладаў, звязаў у дзяржаўных СМІ, застрашваннем студэнцтва, блакаваннем сайта выбаркама і г.д. Аднак у выніку ўдачы апазіцыя атрымала б легітымнага лідара. Таму не выключана, што спроба паўтарыць расійскі досвед будзе зроблена і ў нас.

**МБ**

# Адстаўныя лукашэнкаўцы масава працуюць на Расію

Экс-міністр замежных справаў Сяргей Мартынаў стаў кіраўніком прадстаўніцтва «РуссНефць» у Беларусі. Цікава, што некалі гэтую пасаду займаў былы кіраўнік Магілёўскага аблвыканкама Міхаіл Дражын.

Хто яшчэ прайшоў такой сцежкай — з беларускіх чыноўнікаў у расійскі бізнэс?

### 1. Урал Латыпаў і Іван Антановіч

Адразу два папярэднікі Мартынава на пасадзе кіраўніка МЗС (Беларусі, а не Расіі) пасля адстаўкі для ПМЖ абралі... Маскву. Іван Антановіч займаўся ў расійскай сталіцы навуковай і педагагічнай працай.

Што да Урала Латыпава, то ў Беларусі за Лукашэнкам з КДБ ён перасеў на топ-пасады міністра замежных справаў, кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, Рады бяспекі. Пасля адстаўкі ён тры гады адпрацаваў старшынёй кансультацыйнай рады кампаніі «Лукойл-Беларусь». Ад 2008 перайшоў у кампанію «МТЗ «Рубін», аднаго з найбуйнейшых дэвэлапераў расійскай сталіцы. Раней тамсама працаваў былы прэм'ер Уладзімір Ярмошын. Праўда, на старыя гады Ярмошын вярнуўся ў Мінск.

### 2. Іван Ціцянкоў

Першы кіраўнік справаў прэзідэнта Іван Ціцянкоў найбольш запомніўся сваім рэзанансным учынкам падчас рэферэндуму 1995, калі парваў бел-чырвонабелы сцяг. З часам Ціцянкоў зашмат падмяў пад сябе. Кіраўнік краіны нават абвінаваціў свайго аканома, што ён «зарваўся». Пасля адстаўкі Ціцянкоў працаваў у расійскай кампаніі «Ітэра», а пасля адкрыў уласны будаўнічы бізнэс. У Маскве. Кажуць, што сёлета Ціцянкова бачылі ўжо ў Мінску.

### 3. Уладзімір Навумаў

А вось былога міністра ўнутраных справаў Уладзіміра Навумава пасля адстаўкі ніхто ў Беларусі не назіраў. Хаця ў адзіным інтэрв'ю пасля ад'езду з краіны экс-чыноўнік прызнаваўся, што вольна прыязджае ў Мінск. Навумава адставілі ў час гучнай барацьбы МУС і КДБ. Калі разыгрывалася «справа паляўнічых», за краты трапілі некаторыя намеснікі Навумава.

Цяпер Навумаў нібыта працуе ў блізкай да Пуціна кампаніі «Растэхналогіі» дарадцам кіраўніка. «НН» тэлефанавала ў кампанію, каб знайсці Навумава. Ветлівыя сакратаркі доўга шукалі такое прозвішча, але не знайшлі.

### 4. Віктар Рахманько

Пасаду начальніка Беларускай чыгункі Віктар Рахманько страціў у 2001, калі трапіў пад карупцыйную справу, якая скончылася турмой. Да канца тэрміну чыноўнік не дасядзеў, а па вызваленні накіраваўся ў Маскву. Там яго таленты знайшлі прымяненне у «Газпраме». Цяпер Рахманько ўзначальвае Дэпартамент інвестыцый і будаўніцтва кампаніі.

### 5. Леанід Ерын і Уладзімір Мацкевіч

У Маскве ўладкаваліся адразу два былыя старшыні КДБ. Леанід Ерын працуе дарадцам начальніка «Расійскай чыгункі». Працу дарадцы знайшоў сабе і Уладзімір Мацкевіч. Ён дапамагае кіраўніку кампаніі «Савкамфлот».

**Зміцер Панкавец**


Сяргей Мартынаў атрымаў цёплае месца ў «РуссНефці».
PHOTO.BYMEDIA.NET

# Барадач: Я не буду вылучацца ў прэзідэнты

Яшчэ 1 чэрвеня Уладзімір Барадач і Ануфры Рамановіч апублікавалі Мемарандум «Рады нацыянальнага адраджэння», дзе акрэслілі асноўныя прынцыпы і планы сваёй дзейнасці. Шуму было!.. Той не такі, тыя не такія, а вось мы!.. І што ж? З таго часу прайшло амаль пяць месяцаў, а навін пра дзейнасць Барадача і кампаніі не паболела. Мы вырашылі патэлефанаваць у Нямеччыну, каб пацікавіцца справамі «Рады».

**«Наша Ніва»: Столькі часу прайшло ад Мемарандума, а ад вас нічога не чуваць. Чаму? Якія канкрэтныя дзеянні вамі робяцца?**

**Уладзімір Барадач:** Мы зладзілі шэраг мерапрыемстваў. Наша колькасць узрастае. Вядзём перамовы з рознымі палітычнымі сіламі. Хутка мае адбыцца сустрэча з прадстаўнікамі Рады БНР. Калі мы не дамовімся з саюзнікамі, то ў адзіночку рашаць пытанні будзе вельмі складана. Мы чулі дакоры, што хочам заняць месца Рады БНР. Шаноўныя людзі падпісалі зварот, дзе выказваюцца супраць нас. У гэтым ёсць рука спецслужбаў. У нас з Радай БНР няма ніякіх разыходжанняў. Скажу, што мы не імкнёмся стварыць структуру, якая будзе дзейнічаць толькі з-за мяжы. Гэта было б крывадушнасцю казаць, што мы пераможам, седзячы за мяжой.

**«НН»: Мы — гэта хто?**

**УБ:** Цэнтр сілы, які будзе часткова знаходзіцца за мяжой, часткова ў Беларусі. Я бачу сярод хаўруснікаў КХП-БНФ, БХД, АГП, моладзевыя арганізацыі. З імі можна весці размову. Толькі разам мы можам заваяваць давер народа. У Беларусі ўтвараецца ўнікальная сітуацыя, калі свядомасць нізоў апярэджвае свядомасць палітычных лідараў.

**«НН»: Дык калі ўсё ж можна чакаць больш актыўнай дзейнасці?**

**УБ:** Калі канчаткова ўзважым, з кім пойдзем далей. Паўпадпольная дзейнасць ідзе ўжо зараз: стварэнне структур, тлумачальная праца, праверка кадраў, бо шмат справе траціць КДБістаў. Многіх нашых людзей пачалі чапаць пасля спецслужбы, хоць да гэтага шмат гадоў пакідалі ў спакоі.

**«НН»: І шмат вас?**

**УБ:** На арганізацыйных сходах, што адбываліся ў Польшчы, Літве, Украіне прысутнічала 53 чалавекі з Беларусі, у тым ліку і партыйцы. Цяпер нам важна так арганізоўваць дзейнасць, каб немагчыма было прыпісаць тэрарызм.

**«НН»: Парламенцкія выбары — добрая пара, каб прапагандаваць свае ідэі. Чаму не скарысталі?**

**УБ:** Бо мы выступалі за байкот. Байкот быў неабходны, бо мы так паабяцалі. Калі б мы яго не правялі, то гэта быў бы плявок нават не ў тых, хто сядзіць, а ў саміх сябе. Канечне, байкот быў непадрыхтаваны. Каб байкатаваць прэзідэнцкія выбары, трэба пачынаць ужо цяпер. Да сярэдзіны лістапада будзе ясна, што мы здольныя прапанаваць. Сістэму Лукашэнкі здольная перамагчы толькі сістэмная сіла.

**«НН»: Ад вашай сілы нехта будзе вылучацца на прэзідэнцтва?**

**УБ:** Я не магу, бо пражываю на тэрыторыі Германіі, і не буду вылучацца. Дый не зможа адзін Барадач нічога зрабіць. Трэба ўтвараць групу вядомых людзей. Каб разам былі Барадач, Пазняк, Саннікаў, Някляеў, Статкевіч. Па адзіночцы лідары будуць вельмі хутка таяць.

**«НН»: Вас не бянтэжыць, што часу прайшло нямала, а зроблена нямнога?**

**УБ:** Безумоўна. І паплечнікі часта падштурхоўваюць, каб былі больш актыўнымі. Але гэта ўтопія. Я даваў на перамены 3-5 гадоў.

**Гутарыў ЗП**

**Уладзімір Барадач**

нарадзіўся ў 1951 у вёсцы Нача (Крупскі раён). Скончыў мінскую Суворaўскую і разанскую Дэсантную (факультэт «Спецназ») вучэльні. У 1981–1983 ваяваў у Афганістане. Камандаваў Мар'інагорскай брыгадай спецназа. Звольніўся ў запас у 1993. Сябра БЗВ. Вядомасць атрымаў у 1996 падчас процістаяння Лукашэнкі з Вярхоўным Саветам. У Барадачу бачылі магчымыга кіраўніка вайсковага перавароту. Вясной сёлета выступіў з ініцыятывай стварэння пераходнага ўрада.



## Сцісла

**Памёр Віктар Чыкін**

Былы старшыня партыі праўладных камуністаў пражыў 63 гады. Прычынай смерці стаў абшырны інсульт. Апошнім часам Чыкін шмат хварэў, перанёс некалькі аперацый.

**Справу Пачобута падоўжылі**

Следства падоўжанае да 21 лістапада. Журналіста, актывіста незалежнага Саюза палякоў Андрэя Пачобута вінавацяць у паклёпе на кіраўніка краіны.

**Мілінкевіч застаецца**

У суботу прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Руху «За Свабоду». Кіраўніком арганізацыі пераабраны Аляксандр Мілінкевіч, які заявіў пра гатоўнасць ісці на выбары-2015, калі яго абяруць адзіным кандыдатам ад апазіцыі.

**Ярмошына на пенсію не збіраецца**

У інтэрв'ю агенцтву БелаПАН старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі выказала гатоўнасць адпрацаваць прэзідэнцкія выбары-2015.

**Спынена справа Петрушэнкі**

Актывіста апазіцыі, палкоўніка ў адстаўцы Петрушэнку з Коханава, вінавацілі ў «зняваге прадстаўніка ўлады». Крымінальную справу супраць яго распачалі падчас кампаніі выбараў у палату прадстаўнікоў, калі Мікалай Петрушэнка вылучыўся на кандыдата ў дэпутаты ад Партыі левых «Справядлівы свет». Падставай стаў артыкул спадара Петрушэнкі ў інтэрнэце пад назвай «Педафіл атрымліваў прэміі за лепшыя дзіцячыя пляцоўкі». Тэкст артыкула перадалі на лінгвістычную экспертызу, і навукоўцы-філолагі з Віцебскага ўніверсітэта не знайшлі ў ім нічога крымінальнага. На тым усё і сціхла.

**СМ, ЗП**

# Імем рэвалюцыі

Лукашэнка адабраў **«Камунарку» і «Спартак»** у бізнэсмэна Марата Новікава.



**«Маратаўскі. Высакародны кампаньён». Насамрэч Марат і дзяржава кампаньёнамі так і не сталі.**

«Камунарка», «Спартак» — гэта народныя прадпрыемствы і гэта прадпрыемствы для дзяцей», — з такімі ўзвышанымі словамі кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка адабраў у прыватнага інвестара акцыі абедзвюх кампаній. Не спатрэбілася нават указа — для нацыяналізацыі хапіла вуснага загаду.

«Я нават у самым дрэнным варыянце развіцця падзей не меркаваў, што справа можа скончыцца такім чынам, — адказаў з Амерыкі асноўны акцыянер фабрык Марат Новікаў «Бізнэснавінам». — Такога няма нават у Венесуэле і на Кубе».

Каму ён перайшоў дарогу на радзіме, і што стала фармальнай прычынай нацыяналізацыі?

### Юрыдычная закавыка

Афіцыйная версія выглядае наступным чынам. У 1993—1994 гадах падчас прыватызацыі «Спартака» і «Камунаркі» прадпрыемствы былі ацэнены няправільна, у выніку чаго дзяржава недаатрымала акцый на 9 мільярдаў рублёў. Праз 19 гадоў Дзяржаўны камітэт па маёмасці раптоўна вырашыў навесці парадак і падаў пазоў у Вышэйшы гаспадарчы суд. Той загадаў аддаць акцыі дзяржаве.

Паколькі назіральныя рады не спяшаліся выконваць рашэнне, Лукашэнка загадаў ліквідаваць іх і замяніць дырэктараў, якія адразу ж напісалі заявы аб сыходзе па ўласным жаданні. На іх месца былі прызначаныя «свае» людзі. Напрыклад, «Камунарку» ўзначальваў былы кіраўнік дзяржаўнага канцэрна «Белдзяржхарчпрам» Іван Данчанка. А паколькі словы Лукашэнкі аб знішчэнні назіральных радаў не мелі ніякай юрыдычнай сілы, гэтыя структуры засталіся, толькі з новым складам правераных людзей.

### Прэтэнзіі Лукашэнкі

Аднак у тое, што дзяржава проста так вырашыла аднавіць справядлівасць, не паверыў амаль ніхто. Лукашэнка сам назваў некалькі прычынаў, па якіх Новікаў не задавальняў яго ў якасці інвестара. Зрэшты, ніводная з іх не давала яму юрыдычных падставаў для таго, каб замахнуцца на чужую прыватную ўласнасць.

Па-першае, паводле словаў Лукашэнкі, амерыканская кампанія Новікава купляла какава-бабы ў Гане. А вось у Беларусь гэтая сыравіна пастаўлялася па завышаным кошце. «А куды ішлі гэтыя грошы, гэтая розніца? У Амерыку, на спецрахунак... У яго прадпрыемства, праз якое ён проста выводзіў грошы», — абураўся кіраўнік дзяржавы.

Другой прычынай была названая нейкая дзейнасць Новікава, падобная да карупцыйнай: «Ён прыхапіў гэтую ўласнасць і нажываўся на ёй. Падкупляючы і фінансуючы многіх і многіх таварышаў у нас у краіне. Ну, да пары да часу. Гэта вельмі небяспечна ў нас». Падрабязнасцяў Лукашэнка так і не расказаў.

Справакаваць агрэсіўныя паводзіны дзяржавы мог поспех Новікава, які рознымі спосабамі істотна павялічыў сваю долю акцый. Мільянер скарыстаўся адменай мараторыя на скупку акцый, атрыманых падчас ільготнай прыватызацыі пачатку 1990-х. У выніку ў яго руках апынуліся 54% «Камунаркі» і 34% «Спартака». Усе спробы Мінгарвыканама перацягнуць акцыі сабе не далі плёну. Тады ў бой была пушчана цяжкая артылерыя...

### Украінскі след

«Узрадуецца «Рашэн», што знішчылі такога сур'ёзнага канкурэнта», — заўважыў Марат Новікаў. Кандытарская карпарацыя, названая па імені заснавальніка, украінскага алігарха Пятра Парашэнкі, бачыцца асноўным прэтэндэнтам на куплю вызваленых прадпрыемстваў. Нездарма ён вядзе перамовы з беларускімі ўладамі ўжо некалькі гадоў.

Вось толькі які інвестар пасля такой гісторыі захоча ўкладаць свае грошы ў Беларусь? Юрыдычных гарантый цяпер будзе мала. Прыклад «Камунаркі» і «Спартака» зацвердзіў, што нацыяналізаваць прадпрыемствы можна адным словам. «Ды чорт з ім, ён нварыў на іх сотні мільёнаў даляраў. Як прыйшло, так і сышло», — падсумаваў Лукашэнка на сустрэчы з расійскімі журналістамі.

**Ягор Марціновіч**

**Чысты прыбытак кампаній***

**«Камунарка»**
- 2009 — $8,8 мільёна
- 2010 — $8,3 мільёна
- 2011 — $18 мільёнаў

**«Спартак»**
- 2009 — $7,9 мільёна
- 2010 — $8,7 мільёна
- 2011 — $24 мільёна

*дывідэнды былі налічаныя акцыянерам толькі аднойчы. Летась «Камунарка» выплаціла $1,65 мільёна.

**Нацыяналізацыі апошніх гадоў**

**«Пінскдрэў»**

У кастрычніку 2010 на вытворчасці ў Пінску адбыўся пажар, які забраў жыцці работнікаў. 3 студзеня 2011 Аляксандр Лукашэнка сваім указам надаў канцэрну «Беллеспаппрам» права прымаць рашэнні, датычныя «Пінскдрэва», ніводная акцыя якога не належала дзяржаве. Яшчэ праз тыдзень быў звольнены былы дырэктар і ўласнік Ларан Арыніч.

**«Керамін»**

У снежні 2011 доля дзяржавы імкліва вырасла з 3% да 57% акцый. Прычым акцыі былі аддадзеныя… бясплатна. За некалькі месяцаў да таго на «Кераміне» была праведзеная маштабная праверка, якая нібыта выявіла шэраг парушэнняў. У выніку дырэктар прадпрыемства, былы віцэ-прэм'ер Анатоль Цюцюноў вырашыў за лепшае ціха сысці на пенсію, аддаўшы дзяржаве свой бізнэс.

# Мільянер у эміграцыі

Як скалаціў свае грошы **Марат Новікаў**?


**Нюх падвёў вопытнага бізнэсоўца толькі сёлета.**

Паспяховы дырэктар крамы, магнат-кандытар, мільянер у эміграцыі — гэта ўсё Марат Новікаў. Ён зарабіў сабе імя яшчэ за савецкімі часамі. Закончыўшы ў 1972 годзе Мінскі інстытут народнай гаспадаркі (цяперашні БДЭУ) па спецыяльнасці «Таваразнаўства і арганізацыя гандлю прамысловымі таварамі», ён спачатку трапіў на працу ў такое блатное месца, як ЦУМ, а пасля апынуўся ў валютным, кагэбісцкім «Інтурысце». Прычым стаў не абыкім, а намеснікам дырэктара.

### Эвалюцыя крамаў

Наступнай прыступкай кар'еры Новікава стала кіраванне гандлем. Яму даверылі пасаду дырэктара ў дробнай крамцы на завулку Баграціёна, а ў 1976 годзе ён узначаліў сталічны ўніверсам «Паўночны» ў Зялёным Лузе. Дэфіцытныя савецкія гады сталі часам росквіту Новікава.

Ягоным цесцем быў Карп Абушкевіч, які ў канцы 1930-х, у разгар сталіншчыны, узначальваў Вярхоўны суд БССР, а пасля вайны 15 гадоў працаваў намеснікам старшыні гэтай установы. Ён быў пастаянным прадстаўніком рэспублікі ў ЮНЕСКА і дзяліўся з зяцем падрабязнасцямі капіталістычнай арганізацыі працы.

«Мы ўпершыню ў СССР арганізавалі прыёмны пункт, дзе людзі здавалі посуд і атрымлівалі за яго грошы. Упершыню адкрылі кафетэрый у краме, упершыню ў Мінску арганізавалі сталовую для супрацоўнікаў, — расказваў Новікаў. — Мы працавалі на ўзроўні заходніх стандартаў сэрвісу».

Вядома ж, не абыходзілася без гандлю «для сваіх». Чорны ўваход ва ўніверсам быў адкрыты для наменклатуры, перападаў дэфіцытны тавар і творчай інтэлігенцыі.

### Нешчаслівая кватэра

На пасадзе дырэктара Новікаў знаходзіўся дзесяць гадоў. Разжалавалі яго пасля наступнай гісторыі. Будучы мільянер вырашыў памяняць сваю невялікую кватэру на ціхай вуліцы Берасцянскай на большую. Знайшоўся выдатны варыянт — пераехаць у кватэру ў пісьменніцкім доме на вуліцы Карла Маркса, у якой калісьці жыў Пятро Глебка.

Удава паэта яшчэ ў пачатку 1970-х прасіла Пятра Машэрава надаць кватэры статус мемарыяльнай. Акадэмік Глебка меў велізарную бібліятэку і архівы, і сваякі хацелі захаваць іх для гісторыі. Планы так і не былі рэалізаваныя. Цяпер жа ў кватэру пераехаў дырэктар універсама Марат Новікаў і ў дадатак вырашыў зрабіць перапланіроўку. Шум, будаўнічы пыл, бытавыя непаразуменні з суседзямі... Кіраўніцтву рэспублікі пасыпаліся гнеўныя лісты ад пісьменнікаў.

Дырэктара было вырашана правучыць. Чарговы канфлікт прывёў да выключэння яго з шэрагаў КПСС і пераводу на пасаду намесніка старшыні калгаса на Стаўбцоўшчыне, што не магло задавальняць амбіцыі Новікава.

### Амерыканскі этап

1989 год карэнным чынам змяніў жыццё Новікава. Замест калгаса яму давялося папрацаваць таксістам. Праўда, у Нью-Ёрку, куды ён пераехаў разам з сям'ёй.

Старыя сувязі і прадпрымальніцкая жылка дазволілі яму стварыць бізнэс і ў эміграцыі. Пачатак 1990-х стаў новым зорным часам для бізнэсмэна. Па ягоных словах, на той час ён займаўся прадпрымальніцтвам з расійскімі партнёрамі, аднак у 1993 годзе да яго звярнуліся тагачасныя кіраўнікі «Спартака» з просьбай аб дапамозе. Новікаў узяўся за справу. Услед за гомельскай кандытарскай фабрыкай ён неўзабаве атрымаў і долю ў мінскай «Камунарцы». За наступныя 19 гадоў амерыканскай кампаніі, віцэ-прэзідэнтам якой з'яўляецца бізнэсмэн, удалося зарабіць на кандытарскім бізнэсе Беларусі дзясяткі мільёнаў даляраў.

### Грамадзянская пазіцыя

Новікаў — свой чалавек у рускамоўных эмігранцкіх колах. Амерыканская прэса адзначае яго ўдзел у многіх дабрачынных праектах, напрыклад, у адпраўцы святочных пасылак амерыканскім салдатам у Іраку і Афганістане, арганізацыі конкурсу для бабуляў і стварэння балетнай трупы.

Дапамагаў ён і супрацоўнікам сваіх прадпрыемстваў. Гэта было і ў часы яго дырэктарства ў «Паўночным», засталося і цяпер. Напрыклад, заслужаныя работнікі «Камунаркі» часцяком выязджалі за кошт працадаўцы на адпачынак у Грэцыю і Чэхію.

Аднак сваю грамадзянскую пазіцыю хітры Новікаў не выказваў ніколі. «Я паважаю Аляксандра Рыгоравіча, паважаю яго пасаду, схіляюся перад тым, што ён такі дзейсны. Але як можна браць на сябе такую адказнасць — знішчыць сумеснае прадпрыемства, знішчыць назіральную раду», — самае смелае, што сказаў ён пасля разгромной нарады ў кіраўніка дзяржавы. Асуджэння дзеянняў Лукашэнкі ці хаця б рэзкай крытыкі не прагучала нават калі ў Новікава, ці, як назваў яго Лукашэнка, «які раней быў Ізя Сігізмундавіч», адабралі бізнэс.

**ЯМ**

# Асфальт клалі ў лужыны

На завулку Казлова **дарогу рамантавалі** ў праліўны дождж.

17 кастрычніка на завулку Казлова каля дамоў 10 і 12 клалі асфальт не проста падчас дажджу і ў лужыны, але яшчэ і вакол прыпаркаваных машын. На пратэсты мясцовых жыхароў супрацоўнікі ЖРЭА Партызанскага раёна амаль не рэагавалі. Беспаспяховымі апынуліся і спробы карэспандэнта «НН» атрымаць камэнтар.

Пра асаблівасці рамонту і дачыненняў з мясцовымі камунальнікамі расказала заснавальніца суполкі «Нашы дзеткі» Хрысціна Вітушка, якая жыве ў адным з тых дамоў. Яе муж сфатаграфаваў працэс укладкі асфальту ў ваду, і тыя здымкі хутка разышліся па Байнэце.

Рэканструкцыя двара пачалася сёлета ўвесну. Дрэвы пад гэтую справу пачалі секчы яшчэ два гады таму. Хрысціна перакананая, што пакладзены такім чынам асфальт пратрымаецца нядоўга. Знайсці адказнага аказалася няпростай справай. Урэшце з жанчынай пагутарыла намесніца дырэктара па добраўпарадкаванні Алена Файзіева. Спачатку яна нібыта прынесла прабачэнні і сказала, што апошні пласт асфальту пакладуць насуха. Пры гэтым яна казала, што выконвае вуснае распараджэнне свайго кіраўніка. Аднак на наступны дзень асфальт клалі ва ўсё тыя самыя лужыны. А ў ЖРЭА больш ніхто не браў слухаўку.

Хрысціна кажа, што тэлефанавала ў міліцыю, але там не прынялі заяву. Нават ва ўпраўленне КДБ па Мінску і Мінскай вобласці, што месціцца побач, каб заклікаць службоўцаў быць сведкамі. Але і там цішыня. «Захочаш пра шпіёна якога паведаміць, то не зможаш», — сумна жартуе Вітушка. Яна напісала звароты ў КДК, адміністрацыю Лукашэнкі, мясцовым уладам — чакае, ці будзе адказ.

Як высветлілася, асфальт у той самы дзень клалі таксама ў мікрараёне «Дружба», на тэрыторыі ГД «Ждановічы», на вуліцах Варанянскага, Галубка і Макаёнка.

**Сямён Печанко**



АНДРЭЙ ВІТУШКА

**У Міханавічах асфальт паклалі без папярэджання**

19 кастрычніка ў «НН» звярнуліся жыхары пасёлка Міханавічы (Мінскі раён). Па іх словах, на вуліцы Савецкай пачалі класці асфальт, не папярэдзіўшы загадзя жыхароў.

«Натуральна, што ніхто не адганяў з вуліцы аўтамабілі. А цяпер большасць на працы. Гэта прыгарад, многім, каб адагнаць аўто, трэба тэрмінова вяртацца з Мінска на электрычцы. Мне з маленькім дзіцём таксама давялося шукаць вольнае месца па суседніх дварах», — расказала жыхарка Міханавічаў. Рамонт мусіў скончыцца яшчэ ў пачатку верасня, але нечакана пачаўся ў канцы кастрычніка.

## Здаў ДАІ парушальніка — стукач ці санітар дарог?

Пакаранне на аснове **відэа з рэгістратараў** можа стаць сталай практыкай.

Перад аматарамі падрэзаць і праехаць на чырвонае замаячыла змрочная перспектыва. ДАІ пачала выкарыстоўваць відэа з рэгістратараў прыватных аўто для пакарання парушальнікаў. Мінская міліцыя запусціла інтэрнэт-праект «Перахоп» — на адмысловым сайце любы грамадзянін можа змясціць звесткі пра парушэнне закона, грамадскага парадку ці ПДД.

Адным з найбольш рэзанансных прыкладаў супрацы грамадзян і ДАІ ў рамках праекта стаў нядаўні інцыдэнт на вуліцы Някрасава, дзе бацька з сынам збілі кіроўцу, які іх падрэзаў. У выніку кіроўцу «Аўдзі-А4» за парушэнне правілаў пазбавілі правоў на 1,5 года, а скорым на руку мужчынам пагражае штраф да 3 мільёнаў або 15 сутак арышту.

### Пільнасць ці стукацтва?

Гродзенскія інспектары за апошні месяц тройчы аштрафавалі парушальнікаў паводле аматарскага відэа. Апошні прыклад: відэа з рэгістратара дапамагло затрымаць дарожнага рэцыдывіста, якога дагэтуль штрафавалі 90 разоў.

Цяпер на ўзроўні УУС аблвыканкама разглядаецца пытанне, каб зрабіць такую практыку рэгулярнай. На сваім сайце гродзенская ДАІ апытала аўтааматараў, ці згодныя яны з падобнай ініцыятывай.

Меркаванні падзяліліся. Адны кажуць, што толькі так можна навесці парадак на дарогах. «Краіна стукачоў!» — эмацыйна рэагуюць іх апаненты. Яны перасцерагаюць, што «рана ці позна трапіць на відэа можа кожны», бо «хто з нас не парушае».

### Юрыст: усё законна

Па каментары карэспандэнт «НН» звярнуўся да аднаго з юрыстаў Мінскай абласной калегіі адвакатаў. Высветлілася, што відэа з рэгістратараў можа выкарыстоўвацца супрацоўнікамі міліцыі ў якасці крыніцы доказаў.

Ад супрацоўнікаў ДАІ патрабуецца толькі належным чынам афарміць гэтыя відэадоказы, незалежна ад таго, як яны іх атрымалі — непасрэдна ад уладальніка відэа ці адшукалі іх у інтэрнэце.

Дырэктар інфармацыйна-асветніцкай арганізацыі «За аўто» Арцём Шаркоў мяркуе, што парадак на дарозе магчыма навесці з дапамогай самаарганізацыі кіроўцаў. На яго думку, размешчаныя паўсюль відэакамеры і інспектары на кожным рагу не даюць належнага эфекту. А вось рэгістратар у салоне можа даць вынік.

**СП**



# На краі Курапатаў будуюць мегарэстаран «Бульбашъ-хол»

У рэстаране будзе **400 месцаў** + лазня і домікі.

Танцы будуць по поўнай праграме. Што назва, што месца: «Бульбашъ-хол» — вялізны забаўляльны комплекс з рэстаранам на 400 месцаў, вялікай лазняй. Для «жадаючых» — асобныя домікі. Для іншых — дзіцячая пляцоўка.

Усё гэта будуецца над МКАД, акурат на заходнім ускрайку Курапатаў, насупраць катэджавага пасёлка Цна, за кальцавой. Будуе кампанія «Наша рэстаранная група» (НРГ), вядомая мінчукам рэстаранамі «Кушавель», «Дача» і «Тусэ».

Трэба ўдакладніць, што Завод вінаградных вінаў «Дыяніс», які выробляе алкагольныя напоі «Бульбашъ», ніякага дачынення да будаўніцтва каля Курапатаў не мае.

На жаль, каментаваць любыя пытанні, звязаныя з новым рэстаранам, прадстаўнікі НРГ адмовіліся, хоць прыватна нашы суразмоўцы ў НРГ самі асудзілі выбар месца для будоўлі кіраўніцтвам кампаніі.

На сайце «Наша рэстаранная група» абяцае ўводзіць у дзеянне дзве-тры такія ўстановы ў год, тым самым забяспечваючы жыхарам сталіцы «добры і цікавы адпачынак». Курапацкі «Бульбашъ-хол» прэтэндуе на першынство. «Мы ўбудоўваемся ў горад, улічваем яго структуру, уплятаемся ў яго крывяносную сістэму», — так прэзентуе сябе кампанія.

Адзін з будаўнікоў на аб'екце, Сяргей, выказаў свае думкі наконт будоўлі проста: «Няправільна гэта — будаваць рэстаран каля Курапатаў. Але ж калі грошы ёсць — усё дазволена. Нам плацяць добра. Да вясны ўсё будзе гатова. Цяпер займаемся ўнутраным аздабленнем. Вам і не снілася, як там прыгожа! Пліткай усё выкладзена, найноўшае абсталяванне. Багацеі будуць сюды сваіх прастытутак вазіць. Але гэта для багатых, не для нас з вамі».

А што думаюць пра будаўніцтва жыхары Зялёнага Лугу? «Там паляглі найлепшыя з беларусаў, — кажа мне бабуля Таццяна Пятроўна. — Я хоць і старая, а туды кветкі нашу. Будаўніцтва каля Курапатаў рэстарана — проста жах нейкі!» А вось група падлеткаў у адказ на маё пытанне зарагатала: «Якая смешная назва! А што гэта такое?»

У Курапатах пахаваны дзясяткі тысяч расстраляных, а знішчана тады была ўся эліта беларускай нацыі, ад заможных сялян да міністраў і акадэмікаў. Палітае крывёй урочышча было занесенае ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў.

Тэрыторыя за МКАД належыць Мінскай вобласці. Таму адпаведны дазвол на будаўніцтва давалі райвыканкам і аблвыканкам. Мы накіравалі ім адпаведныя запыты, чакаем адказу. Фармальна поле, на якім паўстае рэстаран, не трапляе ў ахоўную зону. Але выбар тыпу аб'екта і яго назва выглядаюць як выклік.

На пачатку 2000-х улады аддалі поле на ўсход ад Курапат пад катэджавы пасёлак, але пасля пратэстаў грамадскасці адмянілі сваё рашэнне. Ці можна яшчэ затрымаць рэалізацыю праекта, змяніць прызначэнне аб'екта, ці гэта ўжо маханне кулакамі пасля бойкі і ўсё — позна, грамадства і СМІ прамаргалі, калі гэта пачыналася?

Чытайце пра гэта ў нашых наступных публікацыях.

**Ганна Журавіна**



**Для рэстарана абралі красамоўную назву: «Бульбашъ-хол».**

**Шэсце на Дзяды — 28 кастрычніка**

Мінскія ўлады далі дазвол на правядзенне 28 кастрычніка (нядзеля) традыцыйнага шэсця і мітынгу ў Курапатах, якія штогод праходзяць на Дзяды. Пачатак збору каля Гадзіннікавага завода (ст.м. «Парк чалюскінцаў») а 10:30. Шэсце пройдзе па праспекце Незалежнасці, вуліцах Каліноўскага, Сядых, Карбышава, Гамарніка, Мірашнічэнкі. Мемарыяльны мітынг пачнецца а 15.00. З сабой удзельнікі панясуць бел-чырвона-белыя сцягі і крыжы.



**Пахаванні былі адкрыты ў канцы 1980-х. З чых часоў лес ператварыўся ў Крыжовую Гару.**



**Побач з рэстаранам будзе дзіцячая пляцоўка з відам на некропаль.**

# Ці рэальна ў Мінску зняць аднапакаёўку за 100 баксаў?

Карэспандэнт «НН» высвятляла, хто і на якіх умовах можа атрымаць так званае **дзяржаўнае арэнднае жыллё**. А заадно вырашала сваё кватэрнае пытанне.

### Што такое арэнднае жыллё?

Гісторыя з арэндным жыллём пачалася год таму пасля з'яўлення прэзідэнцкага ўказа №512. Паводле дакумента, адміністрацыі раёнаў Мінска павінны стварыць фонд жыллёвых памяшканняў з ліку незанятых кватэраў і пакояў для далейшага прадастаўлення іх грамадзянам за плату ў арэнду.

### Колькі каштуе арэнда дзяржкватэры?

Галоўны плюс арэнднага (камерцыйнага) жылля, якое дзяржава здае насельніцтву, — нізкая цана. Напрыклад, двухпакаёўка ў доме №60 па вуліцы Арлоўскай прапануецца за... 988,8 тысячы рублёў! Тады як рынкавы кошт арэнды двухпакаёвай кватэры ў гэтым раёне — каля $400 у месяц.

### Хто можа атрымаць?

Тэарэтычна арандатарам таннай дзяржкватэры можа стаць любы ахвотны, але прыярытэтнае права маюць «чаргавікі». Пры гэтым кватэру атрымае «чаргавік» з найбольш ранняй датай пастаноўкі на ўлік. На практыцы гэта азначае, што калі вы сталі «ў чаргу» ў 2000-х, то хутчэй за ўсё кватэра дастанецца не вам.

### Дзе шукаць?

Інфармацыю пра АЖ можна знайсці на сайтах адміністрацый раёнаў Мінска ў раздзеле «жыллёвая палітыка».

На сёння арэнднае жыллё прапануюць два з дзевяці мінскіх раёнаў: 9 кватэр — Цэнтральны і столькі ж Фрунзенскі раён. Самая танная — маламетражка на Чыгла-дзэ, 8 — каштуе 422 тысячы рублёў. Самая дарагая — аднапакаёўка на Нававіленскай — 1,2 мільёна рублёў. На сайтах іншых раёнаў можна пабачыць, што «на сёння кватэры камерцыйнага выкарыстання дзяржаўнага жыллёвага фонду размеркаваныя». Дасведчаныя людзі раяць штодня заходзіць на сайт, раптам нешта з'явіцца.

### Куды падаваць заяўку?

Пасля таго як на сайце вывесілі інфармацыю пра наяўнасць арэндных кватэраў, вы можаце смела кіравацца ў адміністрацыю раёна (не забудзьце прыхапіць з сабой пашпарт!). У службе «Аднаго акна» вам выдадуць бланк заяўкі на кватэру. Увага! Вы можаце выбраць толькі адну з прапанаваных кватэр. Колькі заяваў і якога года пастаноўкі на ўлік было пададзена да вас, вам ніхто не скажа. Калі толькі вельмі папрасіць, скажуць, маўляў, «куды вы сунецеся са сваім 2010 годам. У нас ад 1988-га заяўкі ёсць!»

Праз пару тыдняў правярайце сваю паштовую (на жаль, не электронную) скрыню. Вам дашлюць пісьмо з адміністрацыі з рашэннем наконт кватэры. І трымайце пальцы «крыжыкам». Раптам менавіта вы станеце арандатарам, лічы, «халяўнага» жылля.

**Аксана Рудовіч**

# N.R.M. без Вольскага хоча на «Еўрабачанне»

Піт Паўлаў мяркуе, што гурт мае **стапрацэнтныя шанцы** на перамогу.

У апошні дзень прыёму заявак на адборачны конкурс для ўдзелу ў «Еўрабачанні», гурт N.R.M. таксама вырашыў паспытаць шчасця. Цяперашні лідар гурту Піт Паўлаў мяркуе, што новая песня «Кузнічка» мае шансы перамагчы на конкурсе.

«У гурту N.R.M. ёсць цэлы альбом, песні з якога цалкам адпавядаюць умовам конкурсу. А песня, якую мы абралі, мае стапрацэнтны шанец на перамогу».

Свой новы хіт Піт Паўлаў ахарактарызаваў як стылізацыю пад народную песню — гэта гісторыя кахання кавалі і дзяўчыны Сюзаны, ці проста Зюзечкі.

«НН» звярнулася да шматгадовага «куратара» «Еўрабачання» Аляксандра Ціхановіча, каб той ацаніў, ці зможа N.R.M. адабрацца ад Беларусі.

«Калі песня фарматная, то чаму б не? Конкурс ёсць конкурс, — кажа Ціхановіч. — Я ведаю N.R.M. толькі як музыкаў, яны добрыя, нармальныя рок-музыкі — хай паспрабуюць, чаму не? «Еўрабачанне» — конкурс вельмі разнастайны».

**Юрась Ускоў**



# Беларуска «Барбі» выйграла супербой у Маскве

**Кацярына Вандар’ева — чэмпіёнка свету і Еўропы.**



11 кастрычніка ў расійскай сталіцы прайшоў элітны міжнародны турнір па кікбоксінгу. У адным з баёў удзел узяла наша суайчынніца Кацярына Вандар’ева (вагавая катэгорыя да 53 кг). За свой выгляд спартоўка атрымала мянушку «Барбі». Сапраўды, нешта агульнае ёсць.

Свой імідж беларуска падтрымала, калі выйшла на рынг у ружовых шортах і на высокіх абцасах. Суперніцай Кацярыны была славачка Міхаэла Банчакава. Для перамогі беларусцы спатрэбіліся тры раўнды.

Вандар’ева выйгравала чэмпіянаты Беларусі, Еўропы і свету па кікбоксінгу. У гэты від спорту яна прыйшла, каб мець перавагу для паступлення ў Акадэмію МУС.

**Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**



АНДРЭЙ ДАВЫДЧЫК

**Былы лідар «Зубра» Павел Юхневіч 20 кастрычніка пабраўся шлюбам з Рамуальдай Пашлянковай. Вяселле адбылося ў Вільні, але жыць маладая сям’я збіраецца ў Мінску.**

# Усе сеансы Кашпіроўскага ў Мінску адмянілі

Тэлемаг хацеў **сустрэцца з Лукашэнкам**.

У Мінск Кашпіроўскі прыехаў 19 кастрычніка. Ён планаваў з 21 па 30 кастрычніка даваць штодзённыя бясплатныя прадстаўленні ў 11 і 15 гадзін і платныя з 26 па 30 кастрычніка ў 19 гадзін.

«Сеансы не прайшлі 21 кастрычніка і не пройдуць і пазней, паколькі ў Кашпіроўскага няма дазволу Мінгарвыканкама», — пацвердзіў прадстаўнік адміністрацыі ДК.

Перад сеансамі Кашпіроўскі даваў прэс-канферэнцыю, дзе зазначыў: «Я б хацеў сустрэцца з Аляксандрам Лукашэнкам, паразмаўляць з ім. Бо я вельмі, вельмі, вельмі люблю і паважаю гэтага чалавека».

Расказваў таксама, як пасля ягоных сеансаў сямідзесяцігадовыя бабулькі прысядалі па семсот разоў, а Басаеў пасля дзевяцігадзіннай гутаркі адпускаў закладнікаў.

Міні-сенсацыяй стала прызнанне Кашпіроўскага, што ў першы клас ён пайшоў у Жыровічах.

**Юрась Ускоў**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Крышачку салодкага

Свой першы ў жыцці патрыятычны ўчынак я здзейсніў у восем гадоў. Набліжаўся прыём у піянеры, мяне проста распірала ад жадання здзейсніць што-небудзь патрыятычнае.

Памятаю, як намагаўся ўзняць з зямлі жабрачку ля ўвахода ў царкву, што месцілася непадалёк ад Заходняга моста. Цішком падкраўся ззаду, падхапіў яе падпахі і пацягнуў некуды ў бок ад наседжанага месца, добра што яна была надзвычайна лёгкая. Нейкі дзядок кінуўся адбіраць яе, я ж у адказ пераканаўча енчыў пра тое, што ў савецкай краіне не павінна быць жабракоў...

Цётка Надзя, якой я з гонарам расказаў пра свой патрыятычны ўчынак, моўчкі адчыніла шафу і дастала адтуль цукерку з намаляванымі на абгортцы мядзведзямі. «Вось, бяры...» Але я не паспеў падзякаваць за ўзнагароду. «...Пачастуй тую бедную жанчыну і папрасі прабачэння, нельга крыўдзіць жабракоў... Бог пакарае...» — «Бога ня...» —«Ёсць, ёсць Божанька, — цётка Надзя паклала руку на мой распалены лоб, — ён усё бачыць...»

Трэба сказаць, што цукеркі на той час былі вельмі вялікай рэдкасцю ў хаце. Калі і былі, то перш-наперш для Светы, дачкі маёй забітай немцамі стрыечнай сястры, пасля вайны пэўны час мы гадаваліся разам. «Ну, што ты хочаш, Светачка?» — пыталася цётка, калі тая, румзаючы, адмаўлялася есці ці, захлёбваючыся, кідалася ў слёзы: «Крышачку сало-о-о-дкага хачу-у-у...» Вось тады і з’яўлялася «крышачку», якую цётка даволі старанна хавала ад мяне і якая мо ратавала Свету ад пажыццёвага дзіцячага гора...

...У роспачы я пайшоў да царквы, моцна заціснуўшы ў кулаку цукерку з мядзведзямі. Маё параненае сумленне разрывалася паміж «Божанькам, які ўсё бачыць», і прагай патрыятычных учынкаў, адчайна шукала выйсце з лабірынта, у які ўвагнала мяне цётка Надзя. Але выйсця не было, пакуль не пачулася: «Што ты там хаваеш у руцэ?» Я ўзняў позірк і пабачыў Жорку. Абапіраючыся на

**«Камунаркі, камунары, каму цукеркі, каму нары...»**

мыліцу, ён хутка шкандыбаў да мяне, паблісваючы зайздросным значком ГТО на зашмальцаванай, не па росту малой, талстоўцы...

Я палохаўся Жоркі, ягонай чырвонай пісугі праз увесь твар, ад якой ён набываў жахлівы, амаль звярыны выгляд. Але больш за ўсё мяне палохаў металічны зуб, які называўся загадкавым словам фікса.

Пра Жорку ў двары ніхто дакладна анічога не ведаў. Акрамя таго, што ў яго няма бацькі, што маці працуе прыбіральшчыцай, а сам ён кагосьці парэзаў у бойцы, за што адсядзеў у турме. Адно я ведаў дакладна — як ён згубіў нагу.

Цёплым восеньскім надвячоркам, калі мы са Светкай, цёткай Надзяй і мамай дакопвалі бульбу на гародзе паблізу вуліцы Фабрыцыуса, нешта выбухнула каля пусткі, куды звозілі рознае металічнае ламачча і саржавелую зброю. А праз колькі хвілін па дарозе, асветленай заходзячым сонцам, нейкі мужчына вёў, трымаючы падпахі, Жорку, які скакаў на аднойназе. Там, дзе была другая, бялелі косткі і кропля за кропляй выцякала кроў...

...«Што ты там хаваеш? — ён схапіў мяне за кулак. — А ну, расцісні... Цукерка! «Мішка на севере», «Коммунарка», — услых прачытаў Жорка і раптам закруціўся вакол мыліцы ў шалёным скоку. —Камунаркі, камунары, каму цукеркі, каму нары...» «Аддай! — я намагаўся схапіць яго за мыліцу, — аддай...» «Вось што, пацанё, — узняў мыліцу Жорка, — цукерку я ў цябе экспрапрыірую. Ведаеш, што гэта?»

Я не ведаў. Але зразумеў, што цукерку ён адбярэ. Дзіўна, але я нават адчуў палёгку...

Прайшло колькі год, і я, ужо працуючы журналістам, пачаў сустракаць яго ў розных мінскіх установах, часцей за ўсё ў судах. Ён амаль не змяніўся — усё з такой жа падгорнутай калашынай, з адной мыліцай і значком ГТО. Мяне ён не пазнаваў. Недзе ў сярэдзіне 1980-х ён прыйшоў да мяне са скаргай на ўладу, якая не хоча прызнаваць яго інвалідам вайны. Маўляў, згубіў нагу, калі ліхтарыкам дапамагаў савецкім самалётам бамбіць акупантаў. Што я мог яму адказаць? Каб аддаў цукерку?..

А на мінулым тыдні я сустрэў і жабрачку. Ці не тую, што так і не здолеў некалі справадзіць са шчаслівага савецкага жыцця? Не, яна не сядзела на прыступках пры ўваходзе на Камароўку, кутаючыся ў лахманы на пранізлівым восеньскім ветры. Акуратна апранутая ў чысцюткі, выцвілы за доўгія гады, плашч, яна дрыжачымі пальцамі перабірала ў кашальку грошы.

«Колькі не хапае?» — запытаў я. «Ды што вы, хутка пенсія... Вось хацела ўнучцы крышачку салодкага купіць, вельмі яна шакалад «Маратаўскі» ўпадабала... Думала, ужо патаннеў... Сама чула, як прэзідэнт абяцаў, што патаннее...»

«Бярыце, — я працягнуў ёй колькі змятых паперак, — даруйце мне і бярыце... Вы нават не ведаеце, як я павінен вам...» «Чаму павінны?» — яна запытальна паглядзела мне ў вочы. «Таму што Божанька ёсць і ўсё бачыць»...

*kamerton_41@mail.ru*

# Астрашыцкі Гарадок: мястэчка, якое жыве вакол школы

Аграгарадок кардынальна змяніўся са з'яўленнем зорнага вучня.

Выпадковага турыста, які ў будні дзень збочыць з трасы Мінск–Віцебск за пятнаццаць кіламетраў ад сталіцы, здзівіць колькасць аўтамабіляў ДАІ на ўездзе ў Астрашыцкі Гарадок. На пляцоўцы непадалёк ад мемарыяльнага танка знаходзіцца імправізаваны «пункт пропуску». Праваахоўнікі правяраюць дакументы ў кіроўцаў аўто з немясцовымі нумарамі і на ўсялякі выпадак пытаюцца, як іх занесла ў Астрашыцкі Гарадок.

## За калючым дротам

Прычына павышанай бяспекі — месца вучобы трэцяга сына кіраўніка дзяржавы. Коля Лукашэнка летась пайшоў у першы клас мясцовай школы. Калі яго не пераведуць у іншую навучальную ўстанову, жыхарам Астрашыцкага Гарадка давядзецца жыць па «Колевым графіку» яшчэ дзесяць гадоў. Гэта азначае штодзённае ранішняе і вячэрняе перакрыванне трасы, калі па ёй пралятае картэж з мігалкамі, які вязе Колю на заняткі з Драздоў.

Дарэчы, рэзідэнцыя ёсць і ў самім Астрашыцкім Гарадку. У савецкія часы яна была добра абароненым лецішчам маршала Цімашэнкі, здольным вытрымаць ядзерны ўдар. У 1990-я будынак прыглянуўся Кіраўніцтву справамі прэзідэнта. Пасля рэканструкцыі «Азёрны» абзавёўся трохметровым плотам з калючым дротам і камерамі відэаназірання. Цяпер у рэзідэнцыю часам пускаюць дзяцей з мясцовай школы для заняткаў спортам.

## Хакейная школа

Астрашыцка-гарадоцкая агульнаадукацыйная школа — галоўнае, чым ганарацца жыхары. Басейн, гумаванае футбольнае поле з трыбунамі, заняткі конным спортам... У ёй ёсць спецыялізаваныя хакейныя класы, дзе вучацца дзіцячыя зборныя Беларусі 1995—1998 гадоў нара-джэння. Спартыўны ўхіл школы навідавоку, хоць моцнымі бакамі паказальнай школы лічацца яшчэ матэматыка і замежныя мовы.

Школа адпавядае статусу свайго самага вядомага вучня, таму бацькі не надта хвалююцца пра арганізацыю навучальнага працэсу — усё зроблена на найвышэйшым узроўні. Аднак расказваць пра гэта жыхары Астрашыцкага Гарадка не любяць — ці то пасля настойлівых парадаў на бацькоўскіх сходах, ці то з імкнення да ўнутранай бяспекі. На любыя пытанні ў адказ чуецца ўстаноўка: дзеці вучацца, усё добра, няма пра што размаўляць.



ДАІ пытаецца ва ўсіх кіроўцаў, як іх занесла ў Астрашыцкі Гарадок

Трохпавярховую школу рэканструявалі з размахам два гады запар, пакуль у яе нарэшце не пайшоў Коля.

Зрэшты, і знайсці ў цэнтры населенага пункта мясцовых жыхароў надзвычай складана. Каго ні сустрэнеш — усе мінскія. Адна маладая сям'я заехала праведаць бацькоў, іншая кампанія маладзёнаў рушыла ў госці да сябра...



Не кожны аграгарадок можа пахваліцца вялікай СТА. Знаходзіцца ў будынку былой сінагогі.



Вясковая забудова змяняецца шматпавярховікамі.

## Сэрвіс «па-гарадскому»

Трохпавярховая школа знаходзіцца ў самым цэнтры аграгарадка, побач з аднапавярховым сельсаветам і пунктам аховы правапарадку. Уздоўж суседняй вуліцы некалькі крамаў. У той, што належыць райспажыўкаапераціі, паветра гэткае самае, як у любой вясковай краме. У прыватнай «Эгідзе» атмасфера іншая ды і асартымент больш разнастайны. Дарэчы, ёсць у мястэчку і фірменная крама Мінскай птушкафабрыкі.

Банк, аптэка, аддзяленне сувязі, Дом быту і дзве крамы прамтавараў — усе гэтыя харэствы гарадскога жыцця ўласцівыя і Астрашыцкаму Гарадку.

Большасць тэрыторыі мястэчка займаюць вясковыя хаты, аднак ёсць і некалькі пяціпавярховікаў.

Што да аховы здароўя, то да рэканструкцыі школы галоўным сацыяльным аб'ектам мястэчка была Рэспубліканская дзіцячая бальніца медыцынскай рэабілітацыі. Дзяцей з усёй краіны адпраўляць сюды аднаўляць здароўе. Ёсць і якая-ніякая амбулаторыя. Для сур'ёзных абследаванняў трэба ехаць за некалькі кіламетраў у Бараўляны.




Тры (!) крамы на адлегласці выцягнутай рукі адна ад адной. Да школы ад іх 100 метраў.

## Права на працу

Сярэдні кошт жылля ў вясковых населеных пунктах вылічыць складана. Звернемся да канкрэтных аб'яваў. Напрыклад, недабудаваны двухпавярховы катэдж на 200 кв.м. прадаецца за $100 тысяч, а хата з водаправодам на вуліцы і трыма адрынамі каля сажалкі за $26 тысяч.

А вось цэны на кватэры зусім мінскія. Двухпакаёўка каштуе ажно $95 тысяч — амаль $1500 за квадратны метр.

Зрэшты, па словах мясцовых жыхароў, нерухомасць у Астрашыцкім Гарадку хоць і купляюць, але жыць стала сюды не едуць. Летняе лецішча — і не больш за тое.

Што да працоўных месцаў, то з гэтым глабальных праблемаў няма. Калі паглядзець на спадарожнікавую мапу Астрашыцкага Гарадка, на ўездзе ў мястэчка выразна бачная сіняя пляма. Гэта металаапрацоўчае прадпрыемства «АМТ Інжынірынг». Ёсць і мэблевая фабрыка «Усход», і ўжо названае СТА... Ну і пад бокам ёсць Мінск з яго разнастайнасцю. Большасць жыхароў аграгарадка ўсё ж працуе ў сталіцы.

**Ягор Марціновіч**

# «Аграгламур» напалохаў

Інсталяцыю Алеся Пушкіна **знялі з выставы** «Пастулат-2012».

Выставу «Пастулат» у Мінску ладзяць Саюз дызайнераў, Універсітэт культуры і Акадэмія мастацтваў. Арганізатары кажуць, што гэты праект мусіць пакласці пачатак «беларускаму музею крэсла». На выставе можна пабачыць крэслы Кандрата Крапівы і Васіля Віткі, крэсла-піяніна Кузьмы Чорнага. Таксама арганізатары звярнуліся да дызайнераў і мастакоў з прапановай стварыць для выставы ўласныя крэслы. Сярод такіх быў і Алесь Пушкін.

«Яны замовілі мне крэсла. Калі атрымалі фота і апісанне, разнерваваліся — сказалі, што, можа, не трэба яго выстаўляць. Я прывёз крэсла ў Мінск. Пасля даведваюся ад журналістаў, што на выставе маёй працы няма», — кажа Алесь Пушкін.

Ствараючы сваё крэсла, натхняўся Пушкін жыццём у аграгарадку. На крэсле ёсць налепкі «рускія ідуць», «піўныя» лозунгі, пазалочаныя цыбуліны...

«У аграгарадку няма ніякай культуры, — лічыць Пушкін. — Суцэльнае п'янства. Калі да мяне ў Бобр прыехаў Віталь Сіліцкі, мы з ім адправіліся гуляць. Падыходзім да ДК — вісіць замок. Віталь кажа: «Зразумела, дом ёсць, культуры няма». Тое самае з басейнам — комплекс ёсць, а спорту няма. Затое ў рэстаране аднachасова вяселле і памінкі. З культуры — дыскатэкі і більярд. Вось гэты тыльны бок крэсла з надпісам «Пейте пиво с юных лет — у дебилов проблем нет» і напалохаў арганізатараў».

Пушкіна чапляе тэма аграгарадкоў: цяпер ён рыхтуе цэлы праект Welcome to Belarus.

**Юрась Ускоў**



СЯРГЕЙ БАЛАЙ

# Мянцюк выйшаў на волю па амністыі

Асуджаны па справе «жывога шчыта» выйшаў з турмы на год раней.

«Падкажыце, у якім атрадзе знаходзіцца Раман Мянцюк», — звярнуліся мы ў спецчасць Ваўкавыскай калоніі №11, месца апошняга прытулку асуджанага.

«З якой мэтай цікавіцеся?» — «Хочам ліст яму напісаць». — «Дык пішыце на хатні адрас. Вызваліўся ён месяцы два таму па амністыі».

За кратамі Мянцюк не дасядзеў амаль год. Яго асудзілі на 5 гадоў калоніі агульнага рэжыму 28 кастрычніка 2008. Справа была рэзананснай, бо да яе мелі дачыненне супрацоўнікі ДАІ. Каб спыніць Менцюка, які ў нецвярозым стане гнаў па трасе Мікашэвічы—Мінск з хуткасцю каля 160 км/г, яны перакрылі дарогу цывільнымі аўто. Іх кіроўцам і пасажырам пры гэтым загадалі сядзець у машынах. У выніку Мянцюк на аўто пратараніў «жывы шчыт». Траўмы атрымалі пяць чалавек, у тым ліку дзіця.

Пасля здарэння 2 сакавіка 2008 Менцюка не арыштавалі, ён выехаў у Расію і нават удзельнічаў у праграме Андрэя Малахава «Няхай гавораць»: выпуск быў прысвечаны акурат «жывому шчыту» пад Мінскам. І толькі потым яго аб'явілі ў вышук. Затрымалі Менцюка з жонкай у Маскве ў ліпені.

Ваўкавыская калонія стала апошняй у спісе Менцюка, але не адзінай. Вядома, што яго некалькі разоў пасля вынясення прысуду этапавалі. Ён быў прызнаны злосным парушальнікам, за што яму адмаўлялі ў змякчэнні меры стрымання, а таксама ва ўмоўнадатэрміновым вызваленні. Падчас адбыцця пакарання ён правёў тры месяцы ў турме за крадзеж.

Жонка Менцюка Вольга атрымала два гады ўмоўна за перадачу кіравання аўто нецвярозаму мужу. Супрацоўнікаў ДАІ, што стварылі «жывы шчыт», звольнілі і асудзілі на 2 гады ўмоўна з адтэрміноўкай на 3 гады.

**Сяргей Макарэвіч**



PHOTO BYMEDIA.NET

## На Ждановічах пабіліся расейскія цыганы

Затрымана 40 чалавек.

Інцыдэнт адбыўся ў суботу на мінскім рынку «Ждановічы». Бойка адбылася каля 12.30 недалёка ад прадуктовага рынку. У ёй удзельнічалі групоўкі астраханскіх і стаўрапольскіх цыганоў, паведамілі ў Следчым камітэце.

У ход была пушчана нават траўматычная зброя. «Некалькі чалавек пацярпелі. Прыйшлося выклікаць хуткую дапамогу», — сказаў відавочца канфлікту.

Бойку разганяў АМАП. Затрыманыя больш за 40 удзельнікаў інцыдэнту. Узбуджаная крымінальная справа па артыкуле «злоснае хуліганства». Падазраваны — жыхар Стаўраполля 1984 г.н., які пачаў страляць.

**СМ**

## Намеснік начальніка ДАІ памёр на працоўным месцы

Імаверная прычына смерці — сардэчны прыступ.

Максіму Падбярозкіну было 36 гадоў. З іх 18 праслужыў у міліцыі. З 1997 — у ДАІ. Спачатку працаваў простым інспектарам, затым — на кіруючых пасадах Цэнтральнага і Ленінскага раёнаў, у ДАІ Мінгарвыканкама. А ў 2008 быў прызначаны намеснікам кіраўніка ДАІ Беларусі.

Адметна, што на такую высокаю пасаду ён трапіў пасля таго, як сведчыў на так званым «працэсе 14», калі судзілі моладзевых актывістаў за ўдзел у акцыі прадпрымальнікаў. Падбярозкін на судах заявіў, што маніфестанты мелі антыдзяржаўную сімволіку і лаяліся матам, што яны былі п'яныя і не прапускалі машыны «хуткай дапамогі», што аспрэчыла відэа, прадэманстраванае на працэсе.

**КМ**



АНТОН МАТОЛЬКА

## У жудаснай аварыі пад Гроднам загінула сям'я

Ад КАМАЗа адчапіўся прычэп і пратараніў легкавік.

У страшнай аварыі, якая здарылася 19 кастрычніка пад Гроднам, загінулі тры чалавекі — усе жанчыны. Усяго ў легкавіку, які ехаў у бок мяжы, знаходзілася чатыры чалавекі: 35-гадовая кіроўца, яе сястра, 70-гадовая маці і 14-гадовая дачка. Выжыла сястра, яна трапіла ў рэанімацыю.

Паводле папярэдняй інфармацыі вядома, што ў КАМАЗа, які рухаўся з боку Польшчы, адчапіўся прычэп. Ён выехаў на сустрэчную паласу, па якой акурат у гэты момант рухаўся Volkswagen Passat, і прабіў яго дышалем наскрозь. Шанцаў у загінулых не было.

Кіроўца грузавіка і яго пасажыр патлумачылі супрацоўнікам ДАІ: пачулі ўдар і падумалі, што гэта хтосьці іншы трапіў у аварыю. «Я глянуў у люстэрка, падумаў, што гэта трал у аварыю трапіў. А потым гляджу — наш прычэп... Я нават і не помню, дзе ехала тая машына».

**Сямён Печанко**



GAIGRODNO.BY

### Сцісла

**Спрабаваў падпаліць старшыню сельсавета**

У Бярозаўскім раёне 78-гадовы пенсіянер прыйшоў да старшыні сельсавета і абліў яго бензінам. У апошні момант чыноўнік выхапіў у старога з рук запалкі, а потым выклікаў міліцыю. Як высветліла следства, пенсіянер прасіў арганізаваць яму надомнае абслугоўванне. Але камісія пастанавілі, што такой патрэбы няма. Дзед вырашыў адпомсціць. Заведзена крымінальная справа.

**П'яны кіроўца выкраў цяжарную жанчыну**

33-гадовы гродзенец на «Мерсэдесе» трапіў у аварыю. У яго машыне была пасажырка на апошніх месяцах цяжарнасці. І кіроўца, і пасажырка трапілі ў бальніцу. Мужчына не застаўся ў лякарні, а пайшоў у палату да жанчыны. Разам яны сышлі з бальніцы. Іх затрымала ДАІ. Як высветлілася, жанчына ў аварыі зламала ключыцу. Сведкі здарэння кажуць, што яна таксама была нецвярозая.

**Пажар у школе ў Капылі: эвакуявана 400 чалавек**

У Капылі праз пажар у школе №3 падчас урокаў эвакуявалі на вуліцу амаль 400 чалавек. Пажарныя высветлілі, што пажар узнік у бакоўцы на першым паверсе. Гарэла праводка разетак і драўляная паліца.

**СП**




## Мінская міліцыя шукае маладога чалавека, які напаў на жанчыну

17 кастрычніка каля дома № 17 па вуліцы Нахімава невядомы малады чалавек падышоў ззаду да 48-гадовай мінчанкі і абхапіў яе за шыю. Яна пачала вырывацца, тады нападнік ударыў яе па галаве і ўцёк. У аб'ектыў камеры відэаназірання па тым адрасе трапіў нейкі малады чалавек, які праследаваў жанчыну. Міліцыя не выключае, што гэта менавіта той нападнік.

Прыкметы зламысніка: на выгляд 20–27 гадоў, хударлявы, шчокі ўпалыя, рост 175–178 см, валасы прамыя цёмна-русыя кароткія. Пры хадзе сутуліцца, ходзіць перавальваючыся з нагі на нагу, ступні пры гэтым шырока павернуты, кісці рук трымае ў адвіслым становішчы.

Быў апрануты: куртка кароткая цёмна-шэрага ці чорнага колеру з плашчавой тканіны, на куртцы ў вобласці грудзей злева і на спіне ўверсе ёсць нашыўка авальнай формы ў выглядзе значка белага колеру, туфлі (красоўкі, падобныя на туфлі) чорнага колеру з вузкімі насамі.

Кантактныя тэлефоны ГУУС Мінгарвыканкама: (017) 200-60-36, (029) 356-02-02, (029) 381-04-19 або 102. Канфідэнцыйнасць гарантуецца.

# Грубы вясковы голас Мо Яня

**Нобелеўскую прэмію ў літаратуры атрымаў 57-гадовы кітайскі пісьменнік.**

Нобелеўскі комплекс Кітая. Так называўся артыкул у кітайскай газеце Caijing напярэдадні ўручэння прэміі ў галіне літаратуры. Кітайскі раманіст Мо Янь разам з японцам Харукі Муракамі з'яўляліся галоўнымі прэтэндэнтамі на ўзнагароду. У выніку перамогу аддалі Мо Яню.

Што датычыць самога «комплексу», то вялізны Кітай да гэтага года не меў ніводнага нобелеўскага лаўрэата. Дакладней, яны былі, але афіцыйны Пекін хацеў бы іх ніколі не ўзгадваць. Два гады назад Нобелеўскую прэмію міру атрымаў дысідэнт, палітвязень Лю Сяабо, яшчэ раней гэткай жа ўзнагародай адзначылі Далай-Ламу, духоўнага лідара Тыбета, які змагаецца за незалежнасць.

У літаратуры да Мо Яня толькі адзін кітаец атрымліваў Нобеля. Гэта быў Гао Сінцзянь у 2000. Аўтар піша па-кітайску, але даўно жыве ў Парыжы. Няхай французы радуюцца яго поспехам, а не кітайцы, мяркуюць многія ў Паднябеснай.

Ніхто не будзе спрачацца, што ўклад кітайцаў у сусветную культуры велізарны. Але ў значнай ступені гэта тычылася старажытнасці. У апошнія сто гадоў (Нобелеўская прэміі пачалі ўручаць у 1901) Кітай быў адсталай краінай. Ваенныя канфлікты, камуністычная дыктатура, зверствы культурнай рэвалюцыі — не самы ўдалы час для навуковых і літаратурных адкрыццяў.

У апошнія дзесяцігоддзі Кітай ператварыўся ў сусветнага лідара — другая эканоміка планеты. У краіне адбылася тэхналагічная мадэрнізацыя, хай і пры дыктатуры. Прыйшла новая хваля ў кітайскай літаратуры, самым яркім прадстаўніком якой з'яўляецца 57-гадовы Мо Янь. Звычайна Нобелі даюць больш сталым пісьменнікам.

Мо Янь нарадзіўся ў 1955 у правінцыі Шаньдун (там, у родных мясцінах, як у Фолкнера ці Стывена Кінга, адбываецца дзеянне большасці яго раманаў). Мо Янь — гэта псеўданім, які значыць «Маўчы». Узяты ён у спадчыну ад цёмных часоў «культурнай рэвалюцыі». «Я не мог тады нікому нічога казаць», — згадвае пісьменнік. Сапраўднае імя — Гуань Мае.

Сям'я была вясковай, але дастаткова заможнай. Гэтая акалічнасць перашкаджала Мо Яню ўступіць у шэрагі Народна-вызваленчай арміі Кітая, некалькі разоў яму адмаўлялі, але з трэцяй спробы ён трапіў на службу. У войску Мо Янь быў кадравым палітработнікам, чытаў лекцыі для курсантаў у вучылішчы. У гэты ж час ён пачаў рабіць першыя літаратурныя спробы. Агулам адслужыў 21 год. Сёння Мо Янь з'яўляецца намеснікам старшыні Саюза кітайскіх пісьменнікаў. Ён зусім не дысідэнт, што дазваляла некаторым казаць: Нобелеўскі камітэт вырашыў адплаціць Кітаю за прэмію Лю Сяабо. Але творы Мо Яня сапраўды моцныя, жывыя і таленавітыя.

«Казкі, гісторыя і сучаснасць змяшаныя ў галюцынатыўным рэалізме», — так гучыць афіцыйнае тлумачэнне Нобелеўскага камітэта, чаму ён узнагароджвае Мо Яня.



**Пісьменнік жорстка іранізуе з прыгожага жыцця, алкагалізму і абжорства кітайскіх чыноўнікаў »**

У кнізе «Краіна віна» пісьменнік у жорсткай форме іранізуе са спажывецкай культуры кітайскіх чыноўнікаў. Іхняй прагі прыгожага жыцця, алкагалізму і абжорства. Партдзеячы правінцыі Цзюго закупляюць двухгадовых дзяцей для «Даследчага цэнтра асаблівых відаў харчавання», каб потым есці іх на банкетах. Страва з дзяцей з'яўляецца самым выкшталцоным ласункам, які падаюць шаноўным гасцям правінцыі.

Раман шакуе, часам выклікае агіду сваёй натуралістычнасцю, але не адпускае. Такі твор пра сяброў «Белай Русі» быў бы забаронены ў нас. У Кітаі «Краіна віна» таксама нейкі час у «чорным спісе». Таму казаць, што Мо Янь сервільны пісьменнік, не выпадае. Хаця ён дазваляе выкарыстоўваць сябе ў піяраўскіх мэтах кіруючай партыі — пагаджаецца разам з іншымі інтэлектуаламі ад рукі перапісваць працу Мао Цзэдуна пра культуру і мастацтва за 1942 год.

Мо Янь лічыць, што Кітаю для абнаўлення неабходныя «Вялікія цыцкі, шырокія сцёгны». Раман з такой назвай зноўку вельмі натуралістычна апісвае сэксуальную культуру Кітая. Канечне, ён таксама быў забаронены на Радзіме. Мо Яня нярэдка вінавацілі ў «грубасці, вясковасці, празмернай колькасці гвалту і сэксу» ў творах.

З кітайскай мовы на беларускую ніхто не перакладае. Таму нашым суайчыннікам даводзіцца абмяжоўвацца расейскімі і англійскімі перакладамі.

**Зміцер Панкавец**

# У Медніках аднавілі замак



**У літоўскіх Медніках (Медзінінкай), за два кіламетры ад беларускай мяжы, узняўся замак, разбураны ў Сярэднявеччы. Ён быў адбудаваны за грошы ЕС — Брусэль выдаткаваў на гэта тры мільёны даляраў.**

**Крэўскі замак, аднагодак Мядніцкага, пакуль выглядае так. На яго аднаўленне, у адпаведнасці з праграмай «Замкі Беларусі», мае быць выдаткавана 290 тысяч даляраў.**

ЯГОР МАРЦІНОВІЧ

## Сцісла

### Дзяніс Кур'ян сышоў з БТ

Вядучы канала «Беларусь-1» звольніўся «па згодзе бакоў». Цяпер Кур'ян, вядомы па праграмах «Сфера інтарэсаў», «Актуальнае інтэрв'ю», «5×5», а таксама па шматгадовай працы на «Еўрабачанні», бярэ «адпачынак да Новага года». З «Беларусь-1» Кур'ян сышоў, бо не бачыць на канале праектаў, якія б яго цікавілі.

### Памёр польскі перакладчык Быкава — Ежы Літвінюк

Ён сканаў у Варшаве, на 90-м годзе жыцця. Ён перакладаў з фінскай, эстонскай, латышскай, расійскай, украінскай і беларускай моваў. Самым значным перакладчыцкім дасягненнем Літвінюка лічыцца пераклад фінскага эпасу «Калевала». З беларускай мовы Літвінюк пераклаў аповесці Васіля Быкава «Круглянскі мост», «Дажыць да світання», «Трэцяя ракета». Быў адным з перакладчыкаў дакументальнай кнігі «Я з вогненнай вёскі». Перакладаў вершы Танка і Барадуліна.

### З'явіліся дадатковыя квіткі на «Ляпісаў» у Вільні

27 кастрычніка гурт «Ляпіс Трубяцкой» прэзентуе альбом «Рабкор» у віленскай Pramogu Arena. Квіткі былі раскупленыя задоўга да выступу, таму арганізатары дадрукавалі яшчэ 60. Візавая падтрымка на дадатковыя квіткі не распаўсюджваецца.

### Мікалай Карачанцаў устаў на ногі праз сем гадоў

Савецкі і расійскі акцёр Мікалай Карачанцаў, які выжыў пасля страшнай аварыі ў 2005, устаў з інваліднага вазка. Дапамаглі працэдуры іглаўколвання і фізічныя нагрузкі. З жонкай, актрысай Людмілай Поргінай, ён нядаўна ездзіў у Кітай да спецыялістаў вышэйшага ўзроўню. І стараннi лекараў далі добры вынік. У гэтым вялікая заслуга і жонкі. Менавіта яна дае мужу надзею на выздараўленне, прымушае займацца з медыкамі, шукае лепшых лекараў.

**ЮУ; радыё «Свабода»**

## Рэкамендуем

«Гродназнаўства» можна спампаваць на сайце nn.by. Шыкоўнае і грунтоўнае, ілюстраванае і наватарскае па форме падачы матэрыялу выданне сёлета было хітом беларускамоўных продажаў. Кніга знятая з продажу, але прачытаць яе можа цяпер кожны на нашым сайце.

## Выбачэнні

Прыкрая памылка трапіла ў артыкул «Аўтар эталона» («НН» №37 ад 3 кастрычніка). Сказ «Калі памёр Яўген Кулік, дык сваякі прывезлі машыну, пагрузілі ягоныя творы і кудысьці адвезлі» не адпавядае рэчаіснасці.

Герой матэрыяла, мастак Уладзімір Крукоўскі, разважаў пра захаванасць архіваў памерлых мастакоў і творчасць Яўгена Куліка. Падчас расчытвання дыктафоннага запісу гутаркі гэтыя дзве тэмы памылкова з'ядналіся ў адно...

Насамрэч творчая спадчына Яўгена Куліка цалкам захаваная для беларускай культуры, дзякуючы яго роднай сястры Тамары Сяргееўне, яго калегам з мастакоўскай суполкі «Пагоня». Прыносім прабачэнні родным і сябрам мастака.

Матэрыял пра Яўгена Куліка чытайце ў наступных нумарах «НН».

# Хто прыдумаў квоты на электрычнасць?

Месячная льготная норма на сям'ю з 1 чалавека — 70 кВт электраэнергіі. Чаму 70 кВт, а не 48 альбо 226? Хто прыдумаў прапанаваную норму і чым яе абгрунтаваў?

Паразважаем пра аднаго чалавека.

Халадзільнік «Бирюса-КШ-280» спажывае за суткі 1,2 кВт, то бок у месяц 36 кВт. Прымусова адключаць можна толькі на размарозку. Сістэматычныя частыя адключэнні выклікаюць псаванне прадуктаў і ўрэшце — паломку агрэгата.

Мінімум раз на тыдзень чалавеку трэба хадзіць у лазню, пасля чаго — праць пасцельную, нацельную і іншую бялізну. Пральная машына «Чайка-8» спажывае 600 Вт/гадз. Перамножце на 3-4 гадзіны ў тыдзень і падсумуйце за месяц.

Пасля прання ўсё прасуецца, а таксама падпрасоўваецца штодзень, перад сыходам на працу, навучанне, краму, аптэку і г.д. Прас «УТ-1000» запатрабуе 1,0 квт/гадз.

Пыласосіць і рабіць вільготную прыборку лекары раяць праз дзень. «Пыласос «Вихрь-бм» запатрабуе 600 Вт/гадз, альбо больш за 9 кВт/мес.

Дадайце сюды электрачайнік, кававарку, мікрахвалёўку, кандыцыянер, электрафен, плёнкавую электрагрэлку, электраасвятленне, тэлевізар, сігналізацыю, камп'ютар, электраінструмент, электрасродкі для гаспадарчых і іншых патрэбаў, падсумуйце ўсе энергавыдаткі і прыйдзеце да высновы, што аўтар 70 кВт электраэнергіі ў месяц на адзінокага сем'яніна — канцылярская прыдумка не надта дасведчанага ў жыцці чалавека.

**А.Былінскі, Рэчыца**

# «Нашага сына ў БДУФК пакрыўдзілі»

У мінулыя гады выдатнікам **зніжалі плату** на 40—60%.

Выбачайце, калі ласка, што звяртаемся да газеты і ліст больш падобны да скаргі, але звяртацца больш няма куды. Пішуць вам бацькі студэнта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта фізкультуры, Інстытута турызму. Мы сутыкнуліся з жудасным стаўленнем і непавагай з боку кіраўніцтва ВНУ. Спадзяёмся, што многія бацькі падзяляюць нашу пазіцыю.

Рэч у тым, што ў гэтай ВНУ існуе сістэма, паводле якой за выдатнае навучанне, поспехі ў навуцы, актыўную грамадскую дзейнасць кіраўніцтва зніжае плату на 40—60%. Так было ў мінулыя гады. Сёлета ў ВНУ змяніўся рэктар, і ён скасаваў усе гэтыя зніжкі. Нашы дзеці-выдатнікі пісалі заявы на атрыманне зніжак яшчэ летам (калі ўжо прыйшоў новы рэктар), і нас упэўнівалі, што з такімі баламі за сесію (9—10) зніжка будзе.

Але абурае не тое, што скасавалі зніжкі (у нашай краіне цэлая традыцыя не выконваць сваіх абяцанняў), а тое, што пра гэта сказалі ў апошні дзень аплаты за навучанне. І не афіцыйна на сустрэчы з рэктарам, а праз трэціх асобаў. Мабыць, сорамна было сп. Касячэнку (рэктар БДУФК) у вочы сказаць пра гэта выдатнікам! І дзе студэнтам (шмат хто сам сабе на навучанне зарабляе) і бацькам у апошні момант узяць удвая больш грошай, чым яны разлічвалі?

Канечне, пісалі «на зніжку» не ўсе студэнты, а толькі тыя, хто насамрэч найлепш вучыцца. Не сакрэт, што зніжка для многіх студэнтаў была асноўнай матывацыяй добра вучыцца, а цяпер які сэнс, калі ў выдатніка і ў таго, хто вучыцца на 4—5, усё аднолькава? Вельмі добры крок для дэматывацыі студэнтаў!

**Бацькі студэнта**

# Не трэба баяцца гета, калі толькі ў гета можа захавацца беларускасць

Адкрытасць на свет **не заўсёды добра.**

Вечная тэма беларускіх дыскусій — мова, культура, ідэнтычнасць. Адзін бок прасоўвае думку, што расейскамоўныя беларусы — гэта таксама беларусы і што расейскамоўная культура Беларусі — гэткая ж беларуская. Раяць выкарыстоўваць расейскую мову як прыладу ў барацьбе за Беларусь.

Згодная, што расейскамоўныя — гэта таксама беларусы. Згодная, што расейскую мову трэба актыўна выкарыстоўваць у прапагандзе бел. культуры і гісторыі. Тым самым уцягваючы расейскамоўных у нацыянальны дыскурс.

Супярэчнасць выклікае толькі тэза аб беларускасці расейскамоўнай культуры. Гэтая тэза актуальна толькі для тых, хто жыве ў Беларусі.

Апалагеты расейскай мовы ў Беларусі пужаюць белмоўных культурным гета, ізаляцыяй ад сусветных культурных працэсаў, загніваннем. Але паглядзім, ці, напрыклад, жыды, якія амаль тысячу гадоў пражылі ў гета, за гэтыя стагоддзі адсталі ў развіцці?

Негры ў ЗША доўга жылі ў культурным і расавым гета, а негрыцянская культура, якая выйшла з гэтага гета (рэп, хіп-хоп, эр-эн-бі), стала папулярная на ўсім свеце. Індзейцы ў ЗША, калі б не жылі ў гета-рэзервацыях, даўно распусціліся б у эмігранцкім моры.

А ўзяць нашых цыганоў: калі б не імі створанае своеасаблівае гета, асіміляцыя зрабіла б сваё ў першае стагоддзе іх прыбыцця на нашыя землі.

Адкрытасць на свет — не заўсёды добра. Не трэба гнацца за прызнаннем свету.

Трэба проста жыць у сваім свеце белмоўнай культуры, берагчы яго ад знешніх пагрозаў, пераствараючы чужое ў сваё. Калі знешняму свету белмоўная культура будзе цікавая, ён сам павернецца да нас.

**Паўліна Моргун, Баранавічы**

# Беларуская глыбіня. **Нашчадкі**

Піша **Павел Севярынец.**

*І, паклікаўшы дзіця,*
*Ісус паставіў яго сярод іх*
*і сказаў: праўду кажу вам,*
*калі не навернецеся*
*і не будзеце як дзеці,*
*не ўвойдзеце ў Царства*
*Нябёснае.*
*Мацвея 18:2-3*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Штотыдня ў каменду прылятае процьма рознакаляровых, у кветачкі, лістоў і паштовак, спісаных мілымі дзіцячымі почыркамі. Чароўныя нябёсныя, смарагдавыя, рубінавыя, зіхотка-сонечныя матылькі цудоўным чынам віюцца вакол цябе і ўлетку, і ў залатой восені, і нават зімою — і ледзь чутна трапечуць у руках. Лісточкі па-беларуску, з вершамі ды малюнкамі, і зваротнага адрасу ў іх ніколі няма — тыя, хто піша, падпісваюцца толькі імёнамі.

Марыя. Хрысціна. Кірыл. Паліна. Аленка. Віка. Воля.

Кожны лісточак — твор.

Вось на стале, засланым ручніком, — маці Божая Вастрабрамская, партрэт Максіма Багдановіча і ягоныя кнігі, васількі і запаленая свечка. Фотаздымкі прапускаюцца праз каляровую друкарку, выразаюцца і аздабляюцца гелевымі асадкамі з блёсткамі.

Вось «ПАГОНЯ». Вось маленькія паштовачкі-складаначкі з біблейскімі карцінкамі. Калядныя фоты. Музей Белага ў Старых Дарогах. Будзьмаўскія прыгажосці. Вось цэлыя серыі па 10—20 самаробных паштовак. «На родных вуліцах». Царква, касцёл.

Парк... Сумны анёл на могілках... «Сны аб мінулым». «Дарагія сэрцу сябры». Кветкі: «Летняя ружа». «Валошка». «Ірысы», «Званочкі». «Чабор-2012».

Школьныя закладкі з выявамі беларускіх вандровак.

Малюнак на Грунвальд: вершнік з мячом і подпіс «Перамога ад Госпада».

Раство. Маленькі Ісус у яслях. Пастухі, мудрацы, Марыя і Іосіф.

Вялікдзень — Хрыстос уваскрасае і выходзіць з магілы пад бел-чырвона-белым сцягам...

Месца, дзе жывуць маленькія беларусы і беларусачкі, — вёска ў гадзіне дарогі ад Купліна. Першы раз, калі туды запрасілі, падумаў: не можа быць. Праз глухія лясы, бары і дубровы машына вынырнула на нейкай згубленай абжытай выспе. І калі сам убачыў грамаду дзетак з кветкамі, караваем на адмысловым бел-чырвона-белым ручніку з вышытымі сінімі віфлеемскімі зоркамі (адмыслова для БХД!) і харавое вітанне — «Каго любіш?..» — адказ «Люблю Беларусь» выдыхнулася як нешта само сабой зразумелае.

Калісьці сюды дайшла хваля беларускага Адраджэння канца XX ст. Вырас і зацвіў беларускі гурток, дзеткі ўзяліся чытаць Купалу і Караткевіча... і *дэбеларусізацыя*, што скавала краіну з 1995, напэўна, проста заблукала і захлынулася ў тутэйшых гушчарах ды гурток не вымаразіла.

Звычайныя школьнікі 5—10 класаў, такога ж веку, як іх гарадскія аднагодкі, што захоплена раскрываюць раты на «Шоу беларушчыны» — але самі ведаюць і разумеюць непараўнальна болей за большасць дарослых. Трымаюцца разам, ладзяць чытанні ды вечарыны і на выходных ездзяць у вандроўкі, якія лепей назваць паломніцтвамі. Мінск. Полацк. Навагрудак. Мір. Гродна. Ліда. Солы. Вязынка.

І — прымаюць гасцей. Алеся Камоцкага з «Псальмамі» пад гітару, Алену Макоўскую з «Будзьмай», Антона Астаповіча з распаведамі пра страчаную спадчыну, Франака Вячорку з інтэрнэт-праектамі, Паўла Мажэйку, Эдуарда Акуліна, Віктара Шніпа, Віктара Шалкевіча...

Тут, у лагчыне ціхай рачулкі, — таполевая алея, пасаджаная гасцямі. Тут, на могілках, ля пахавання слыннага шляхціца — постаць самотнага анёла, да якога дзеці ўскладаюць свежыя кветкі. Тут — старажытная царква, у якой штонядзелі маленькія беларусы моляцца і спяваюць.

Выхавала дзетак Настаўніца — моцная, негаваркая, але вельмі светлая спадарыня Наталля. Летам дзеці разам з ёй збіраюць ягады, а грошы пералічваюць беларускім краязнаўчым выданням.

Калі б у кожнай з тысячаў беларускіх школаў існаваў хаця б адзін такі гурток — ужо ў 2010-х Беларусь была б беларускай.

Але... «У нашай мясціне жыццё спынілася і замерла, — пішуць дзеці. — Сумна і непамысна, як на закінутых могілках». Ва ўнікальнай дзіцячай супольнасці ўражвае глыбіня адчаю, нейкі недзіцячы надрыў, ясна ўсведамленне страху і безнадзейнасці.

«Як скрушна жыць у гэтым жорсткім свеце! Чаму дабро бывае пакараным? Чаму зазвычай крыўдзяць безабаронных? Вы кажаце, трэба пацярпець. Але калі мы ўсе будзем толькі цярпець, ці не пераможа тым часам зло канчаткова?»

Як яно, такое пяшчотнае, чыстае — можа быць настолькі беларускім, настолькі глыбокім, настолькі пакутлівым?

«Я папрашу ў Цябе, Вялікі Божа,
З маёй зямлі сагнаць адчай-смугу,
Прашу Цябе — бо хто ёй дапаможа?..
Я так хачу, але не ўсё магу», —

піша Воля.

Шчырая, ранімая вера і роспачная беларускасць... Калі і ёсць штосьці, здольнае перамагчы сённяшнюю безнадзейнасць, — дык гэта вось такая дзіцячая вера.

«У сваёй нянавісці да ўсяго роднага, у ганебнай спакусе на салодкі танны газ і тлустую нафту беларусы губляюць Радзіму. Чаго ж тады ад Госпада просім? А бывае, і патрабуем... Не выконваючы Ягоныя запаветы: «Любіце адзін аднаго». Нас, беларусаў, няшмат ужо на Беларусі. Мы павінны адшукаць адно аднаго і злучыцца ў адзін неразрыўны ланцуг. Толькі так пераможам. І Божая падтрымка — будзе!» — піша Паліна.

Многія з нас моцна здзівяцца ў Валадарстве Нябёсным, кажуць святары. Бо там вакол будуць дзеці. Такія дзеці. Напэўна, *там* іх увогуле большасць.

«Але Ісус сказаў: пусціце дзяцей і не заважайце ім прыходзіць да Мяне, бо такім належыць Царства Нябёснае» (Мацвея 19:13).

Толькі тады мы згадаем маленькага Ісуса, Якога малявалі на нашых абразах падобным да беларускіх дзетак, — і ўбачым, што калісьці менавіта Такім, мілым, пяшчотным і безабаронным, з вялікімі нябёснымі вачыма прыйшоў сюды, каб адкрыць у нашых сэрцах далёкую радзіму, Бог.

*Куплін*

**Звычайныя школьнікі 5—10 класаў, але ведаюць і разумеюць непараўнальна болей за большасць дарослых »**

# Вянок цыбулі

**Таццяна Барысік.**
Апавяданне.

*Кожны чалавек у сваім жыцці павінен пасадзіць дрэва, пабудаваць дом... (застольная псеўдамудрасць, канец XX стагоддзя).*



PHOTO.BYMEDIA.NET

Дзень хіліўся да вечара. Пад разлапістаю ігрушай сядзела Адэлька і вязала ў вянкі цыбулю. Цыбулька сёлета не надта ўдалася. Ведама, гарачыня ўсю зямельку ссушыла ды шчэ груша гэтая сокі з гарода цягне, хоць не родзіць амаль. Папраўдзе ніколі не было з дрэва добрай садавіны. Саджанец Адэлька з мужам яшчэ тады, у далёкай маладосці, выкапалі ў садзе местачковага яўрэя. Падмануў местачковец. Ігрушы былі дробныя, каравыя, не ўгрызці, а пасля зусім звяліся. А цяпер мала што не расце нічога, дык і голле два акны засціць, вільгаць ды цвіль не зводзіцца ў хаце. Колькі разоў прасіла ссекчы грушу, але дарэмна. Цяпер ужо няма каму ані пілаваць, ані секчы. Год як няма ў яе мужа, і чацвёрты дзень — сына.

Мужык яе, Ігнат, хварэў. Апошнія тры гады рэдка ўставаў з ложка, ляжаў лежма што п'яны, што цвярозы. Ногі не трымалі, сэрца калацілася, мог, падняўшыся, грымнуцца. А як звалася тая хвароба, Адэлька і не ведала. Доктар з хуткай дапамогі неяк прыязджаў да суседкі, паглядзеў Ігната дый кажа: «Што ж вы хочаце, гады ўжо. Яму б у бальніцу абследавацца...»

Ды хто ж яго ў той бальніцы даглядаць будзе, на чым яго везці? Баяўся туды класціся. Мо і правільна. Не ад хваробы і памёр. Пры жыцці лячыўся націркамі на гарэлцы. Часцей у вантробы прымаў, чым націраўся.

А Адэлька цягнула на сабе і хату, і гарод, і яго глядзела. Сын Вова з горада ўцёк, на бацькаўшчыну вярнуўся. Спачатку маці ўзрадавалася: дапамога будзе. Хату на Вову перапісала. А яно вунь як выйшла! Стары грошы з пенсіі прыхавае ды Вову аддасць, а той у краму. Глыкчуць разам пасля, сварацца. І крычала, і прасіла, і страшыла... Ды дзе там!

За дзень да смерці Ігнат аб ганак бразнуўся, ладна пабіўся, гузак на лбе, рука ўся сіняя. А назаўтра, як у горад паехала, напіліся з сынам. Ці атруціўся сурагатам, ці проста перабраў — невядома. Прытэпала адвячоркам з аўтобуса, а ён нежывы. Бабы ж у вёсцы прыдумалі, нібы гэта Вова бацьку да смерці выцяў. Першыя дні, як пачуе Адэлька такую звягу, коршакам кідалася: «Не чапаў Вова бацькі! Таўхануць мог, калі стары пішчом у вочы лез, а біць не біў! Ігнат сам стукнуўся».

Але яе ўпартасць толькі пераконвала вяскоўцаў у праўдзівасці плёткі: «Скуль яна ведае? У горадзе ж была. На двары моцна крычаў нехта, а чалавек то ці тэлевізар — хто знае? Шыла ў мяшку не ўтоіш».

**Яна ўзяла кавалак, яшчэ не верачы ў тое, што ніхто не адбярэ, не спыніць уладнымі словамі: «Пакінь мне»**

Аднак пагаманілі і забыліся. Мінуў год.

А сынок піў, а тады набраў сабе нечага ў галаву ды ў хляве павесіўся.

«І чаго ж ім не жывецца, га? Божухна... Усё ж ім ашчаджала. Ніколі не паляжала хвілінкі спакойна... І наварана было і прыбрана», — каторы раз падумала Адэлька. А слёз не было. Толькі здранцвенне суцэльнае і туга, што за апошнія гады сталася заўсёднаю бабінай сяброўкай.

— Во паўдуркі гэтыя Маньковічы! Штогод хаваюць, — лапаталі людзі.

— Віна Вову замучыла, што бацьку на той свет адправіў, — папоўз з хаты ў хату працяг даўняй плёткі. Ды Адэлька, скамянелая, учарнелая ад гора, не мела моцы сварыцца, даказваць сваё. Усё перамяшалася ў галаве: мана і праўда, ява і здані. Сын прыходзіў у снах і чамусьці толькі маленькім.

— Маўчыць. Значыць, сказаць няма чаго, — па-свойму адрэзагавала вёска.

Адэлька маўчала. Пахавала сына. Сталы зладзіла. А на чацвёрты дзень узялася парадчыць цыбулю, каб рукі заняць працаю. Яна і сама была падобная да той цыбулькі — дробненькая суханенькая бабулька ў выцвілай жоўтай хусцінцы. Адэлькаю нарадзілася, Адэлькаю замуж ішла, Адэлькай век дажывае. Адальфінай Францаўнай давялося пабыць толькі ў сельсаветаўскіх квітанцыях. Калісьці такое звыклае, а сёння рэдкае яе поўнае імя было непрыдатным для штодзённага існавання. Непрыдатным, як ігруша пад акном. І як зрабілася цяпер непрыдатнаю вялізная — не прапаліць — хата. На халеру ёй адной такі клуб. Праўда, ёсць яшчэ дочкі, Аня з Валяй. Ды толькі Аня замужам, за светам, аж у Сібіры. Зусім хворая: рукі пакруціла. Яна нават на хаўтуры не прыязджала, даслала грошы на вянок. І Валя з райцэнтра не паказваецца: купіла лецішча ля горада. Пасля таго як маці хату на Вову перапісала, сказала: «Раз тут майго нічога няма, дык я сюды не паеду. Насіся са сваім алкаголікам!»

Павязаўшы ўсю цыбулю, старая ўзяла два вянкі і пашкрэбала ў хату, якая пасля смерці Вовы спусцела і здавалася яшчэ большай. А ў астатнім усё было па-ранейшаму: цыгарэтны пах уеўся ў сцены, пад койкаю ляжаў Воваў чаравік з падраным носам.

Пакінуўшы цыбулю на цвіках ля печы, Адэля адчыніла лядоўню і ўбачыла рэштки вэнджанай каўбасы, што засталіся ад сталоў. Апетыту не было, але раз на падносіку нарэзана — трэба з'есці. «Чым дабру прападаць, дык няхай жывот лопне» — усплыло занатаванае ў памяці прыдказка, задоўга да Адэльчынага з'яўлення на свет. Яна ўзяла кавалак і пачала старанна перацірáць яго аскепкамі зубоў, яшчэ да канца не верачы ў саму магчымасць есці павольна. У тое, што ніхто не адбярэ, не спыніць уладнымі словамі: «Пакінь мне». У тое, што нават не з'едзенае сёння застанецца ляжаць на падносіку, ніхто не кране без дазволу, не вынесе на закуску сабутэльнікам, якія зжаруць усё без меры і разбору. Адэлька з асалодаю прыгадвала смак вэнджаніны, а пачуццё віны нібы існавала незалежна ад яе асобы, пачало дакараць і гнясці нават за гэтае хвіліннае, маленечкае, выпакутаванае задавальненне: «Во, сынок у зямлі сырой, а я жыву і прысмакі ем». Але на гэты раз страўнік узяў верх над розумам.

Акно было расчыненае. На суседавым падворку сядзелі бабы. Паглядаючы ў бок Адэльчынай хаты, Пракопчыха з Юстынаю гучна засакаталі:

— Дзяцей пагадавала, а адна як бізун засталася.

— Маўчы ты, раз адплакала, затое хоць пад старасць пажыве па-чалавечы. Той жа Вова...

Змучаная Адэлька ўсё яшчэ ласавалася каўбасой ад жалобнага стала. І раптам, нібы старая чарапаха вылузнулася з панцыру, яна на імгненне зрабілася ранейшай Адэлькай, якой была, пакуль туга не ўбілся ёй у таварышкі. Увішная, вострая на язык кабета, якая не цярпела звягі ды абгавораў, выскачыла на ганак ды гаркнула на ўсю вуліцу: «Па сваім паплачце, сарокі дурныя!»

Юстына з Пракопчыхаю аж знямелі ад нечаканага адпору. «Мае, якія ні былі, а па чужых дварах не цягаліся, як каторыя злодзеі ды цюрэмшчыкі», — біла па самым балючым Адэлька. Бо сыны Пракопчыхі, не кажучы пра Юстынінага мужыка-нябожчыка, таксама святыя не былі.

— Мы ж нічога. Мы ж, Адэлька... — урэшце ачомалася Юстына.

Але Адэльцы было ўжо ўсё адно, чарапаха зноў схавалася ў панцыр. Аднекуль усё выразней чуўся буслíны клёкат. Перад адлётам у вырай буслы збіраюцца ў чародкі і разам вандруюць па наваколлі. Белыя і чорныя, усе разам яны ляцелі над вуліцаю ў мяккіх сонечных промнях адвячорку. А ўнізе маленькая сагнутая постаць, ледзь шкрэбаючы, цягнула кудысьці свой апошні вянок цыбулі.

**Адэлькаю нарадзілася, Адэлькаю замуж ішла, Адэлькаю век дажывае. Адальфінай Францаўнай давялося пабыць толькі ў сельсаветаўскіх квітанцыях**

**Таццяна Барысік**
пісьменніца. Жыве ў Магілёве. Працуе настаўніцай.

## ХАКЕЙ

### Крыкуноў супраць «Дынама»

**26 кастрычніка на «Мінск-Арэне»** падужаюцца мясцовае «Дынама» і «Барыс» (Астана). Пачатак а 19-й. Трэніруе казахаў Уладзімір Крыкуноў, з якім зборная Беларусі заняла чацвёртае месца на Алімпіядзе-2002.

## ФУТБОЛ

### 29 тур

У чэмпіянаце Беларусі засталося згуляць зусім мала матчаў. **27 кастрычніка** сустракаюцца: «Дынама» (Мінск) — «Славія» (Мазыр), «Нёман» (Гродна) — «Мінск», «Белшына» (Бабруйск) — «Нафтан» (Наваполацк). **28 кастрычніка:** «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Шахцёр» (Салігорск), БАТЭ (Барысаў) — «Брэст».

## БАСКЕТБОЛ

### «Цмокі» — «Трыумф»

**28 кастрычніка на «Мінск-Арэне»** ў рамках Адзінай лігі ВТБ сустрэнуцца беларускія «Цмокі» і «Трыумф» (Люберцы). Пачатак а 19-й. Білеты — 25 — 45 тысяч рублёў.

## ІМПРЭЗЫ

### Бардаўская восень

**З 26 па 28 кастрычніка ў Бельску-Падляшскім, Беластоку, Шчытах-Дзенцялове пройдзе** Фестываль беларускай бардаўскай ды аўтарскай песні «Бардаўская Восень-2012». Бяруць удзел Лявон Вольскі, Зміцер Вайцюшкевіч і WZ-Orkiestra, Віктар Шалкевіч, Bosae Sonca, ILO & Friends, Паліна Рэспубліка ды Алег Кабзар.

### Турбізнес

**19-я Міжнародная турыстычная выстава «Турбізнес-2012»** будзе праходзіць у Мінску ад 24 да 27 кастрычніка па адрасе: вул.Я.Купалы, 27.

## КАНЦЭРТЫ

### «Рабкор»

**27 кастрычніка ў Вільні** адбудзецца канцэрт нашага гурту «Ляпіс Трубяцкой». Прэзентацыя грандыёзнай канцэртнай праграмы «Рабкор Live» пройдзе ў сценах комплексу Pramogu arena. Пачатак у 19.00.




### «Палац» — 20 гадоў»

**26 кастрычніка а 19-й у Тэатры беларускай драматургіі (Крапоткіна, 44)** — «Палац» — 20 гадоў». Гурт прадстаўць традыцыйныя беларускія песні і аўтарскія працы, што створаны паводле фальклорных легенд, абрадаў, паданняў.

### Дзень рэфармацыі

**30 кастрычніка ў Маладзёжным тэатры эстрады (Маскоўская, 18а) а 19-й** — канцэрт, прысвечаны Дню Рэфармацыі. Бяруць удзел музычная група «Эдэм», гурт старажытнага танца «Залаты двор», а таксама квартэт драўляных духавых інструментаў «Riviera».

Будзе гучаць музыка Ёгана Себасцьяна Баха, Міхала Клеафаса Агінскага.

### Камерата

**31 кастрычніка а 19-й у «Лісінай нары» (Каліноўскага, 32)** — клубная прэзентацыя дыска «Паміж небам і зямлёй» вакальнага гурту «Камерата».

### Halloween-2012

**31 кастрычніка а 18-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — Halloween-2012. Бяруць удзел Imprudence, Re1ikt, Outsize, Soulsides, «Рокаш», Weeping Twilight, Exegutor.

## ВЫСТАВЫ

### Ходзіць Сон ля акон...

**У Музеі гісторыі беларускай літаратуры (Багдановіча, 13) да 31 кастрычніка** працуе літаратурна-мастацкая выстава «Ходзіць Сон ля акон...», прысвечаная беларускім калыханкам.




31 кастрычніка ў Мінск прыедуць канадцы Nickelback — адзін з самых папулярных рок-гуртоў сучаснасці дасць канцэрт у «Мінск-Арэне». Кожны новы альбом Nickelback дае радыё па два-тры хіты і адразу выходзіць у лідары продажаў. Білеты — ад 410 тысяч.




**«Местачковае кабарэ»**

**У тэатры імя Янкі Купалы прэм'ера.** 31 кастрычніка гледачам будзе прадстаўлена «Местачковае кабарэ» (на сцэне Дома афіцэраў). Спектакль «Местачковае кабарэ» — гэта рэжысёрская фантазія, спроба ўявіць сабе астравок буржуазнага жыцця, які мог напраўду існаваць у Слоніме, Баранавічах, Гродне ці іншых гарадах і мястэчках Заходняй Беларусі дзе-небудзь у 30-я гады мінулага веку.

Ставіцца спектакль па творах М.Хемара і Ю.Тувіма, Л.Дэнца, В.Шалкевіча. Аўтар ідэі і пастаноўкі і рэжысёр-пастаноўшчык — Мікалай Пінігін.

У спектаклі занятыя артысты Віктар Манаеў, Сяргей Журавель, Зоя Белахвосцік, Ігар Пятроў, Ганна Хітрык, Святлана Зелянкоўская, Павел Харланчук і інш. Зоркай пастаноўкі стане бард, паэт і шоумэн Віктар Шалкевіч. Таксама пастаноўка «Кабарэ» адбудзецца 1, 2, 3 лістапада.

### Края-Віды

**Да 17 лістапада ў галерэі візуальных мастацтваў NOVA (Кульман, 2, аўд. 421—423)** працуе польска-беларуская выстава «Края-Віды» — выбраныя фрагменты буйнейшых праектаў шасці фатографаў, якія ў сваіх працах, у пэўным сэнсе, паказваюць месца, дзе яны жывуць, яго гісторыю, яго недахопы або адметнасць сённяшняга дня.

### 150 гадоў беларускай чыгунцы

**Да 12 снежня ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава, прысвечаная 150-годдзю беларускай чыгункі. Сярод экспанатаў: дакументы і фотаздымкі, узоры форменнага адзення работнікаў чыгункі розных часоў, макеты паравозаў, цеплавозаў, разнастайныя прыстасаванні і апараты.

### Янка Купала і Якуб Колас

**У Палацы мастацтва (Казлова, 3) па 28 кастрычніка** працуе выстава, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

### Традыцыйнае мастацтва Кітая

**Да 28 кастрычніка ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава «Традыцыйнае мастацтва Кітая», на якой можна ўбачыць ісінскую кераміку, сучжоўскае вышыванне шоўкам, роспіс па парцалянe Цзіндэчжэня.

## ТЭАТРЫ

### 25 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Іяланта»
**Лялек** — «Вянчанне»
**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

### 26 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»

### 27 кастрычніка

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Беларускай драматургіі** — «Воўк-мараплавец»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 28 кастрычніка

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Оперы і балета** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»

### 29 кастрычніка

**Купалаўскі** — «Беларусь у фантастычных апавяданнях»
**Беларускай драматургіі** — Happy Valentine

### 30 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»

### 31 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»
**Оперы і балета** — «Рыта, альбо Пірацкі трохкутнік»

### 1 лістапада

**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Беларускай драматургіі** — «Стойкі алавяны салдацік»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Юнага гледача** — «Сіні аўтамабіль»

## КІНО

### Бёртан ажыўляе сабачак

**Франкенвіні** (Frankenweenie)
ЗША, 2012, чорна-белы, 3D
**Рэжысёр:** Цім Бёртан
**Жанр:** Гатычная анімацыя
**Адзнака:** 8,5 (з 10)

Юны Віктар Франкенштэйн захапляецца навукай і кіно, а з сяброў мае толькі сабачку Спаркі. Калі сабачка загінуў, Франкенштэйн, натхнёны ўрокамі фізікі, вяртае Спаркі да жыцця. І ўсё было б нічога, калі б не зайздрослівыя аднакласнікі і цёмныя гараджане. Дзеткі корпаюцца на могілках хатніх жывёлаў, рэанімаваныя аграмадныя чарапахі атакуюць горад, грудастыя фізкультурніцы верашчаць. Носіцца гарбаты аднакласнік, белы пухнаты коцік пераўвараецца ў злоснага кажана.

Але стужка Бёртана — не толькі сатыра на тупасць ды досціпы са старых стужак. Бёртан гаворыць пра навуку і сэрца. Лепей за ўсё зразумеюць гэтую навуку дарослыя дзіцячага веку.

**Андрэй Расінскі**



# Прыгоды намаляванага чалавека за адзін даляр

**Выйшла першая беларуская гульня для смартфонаў-андроідаў.**

Уласнікі мабільных тэлефонаў і планшэтаў на базе сістэмы «Андроід» цяпер могуць набыць у анлайн-крамах першую беларускую гульню пад назвай PaperHell. Гэта слова можна перакласці як «папяровы чорцік». «Простая і цікавая гульня з яркай маляванай графікай! Збірайце пункты і іншыя бонусы, ратуючыся ад чырвоных монстраў, што падаюць зверху! Мэта гульні — пратрымацца як мага больш і сабраць максімум пунктаў», — напісана ў анатацыі.

Кіраваць чалавечкам, намаляваным на аркушы сшытка, нескладана. Дастаткова нахіляць мабільнік ці планшэт у розныя бакі і перыядычна націскаць на экран, каб герой падскокваў ці прысядаў.

Меню, сярод іншых моваў, зробленае і па-беларуску. Гульню распрацавала айчынная арт-студыя PRAS. На іх рахунку ўжо дзве праграмы для «Андроідаў». Адна з іх — «Палівач», які дазваляе падлічыць свае выдаткі на беларускіх запраўках.

За сваю цяперашнюю навінку стваральнікі просяць 1,01 даляра. Хто, на іх думку, будзе плаціць грошы за прыладу? «Гульню мы рабілі найперш для катэгорыі «амерыканскі падлетак 14-ці гадоў». Такія людзі набываюць гульні, — разважае дырэктар студыі PRAS Мікола Тамашэвіч. — У Беларусі, зразумела, мала людзей захоча купіць — мы прывыклі да халявы, хоць цана ўсяго толькі 9 тысяч рублёў. Фактычна гэта цана адной гарбаты ў кавярні».

Чаму ж абраны такі незвычайная цана — крыху больш за даляр? «Мы вырашылі, што $0,99 будзе найлепшым варыянтам, бо псіхалагічна лепш адчуваецца, але крыху памыліліся ў курсах, і цана стала $1,01, — смяецца ён. — Мы плануем выпусціць і бясплатную версію, але пакуль вырашылі ўсё ж праверыць гіпотэзу адной гарбаты».

**Ягор Марціновіч**




**Што такое «Андроід»?**

Гэта аперацыйная сістэма кампаніі Google, на якой працуюць каля 2/3 усіх смартфонаў у свеце. У афіцыйнай анлайн-краме знаходзяцца каля 700 тысяч праграмаў, якія агулам былі спампаваныя 25 мільярдаў разоў. Многія з іх даступныя для бясплатнага выкарыстання.

## Да доктара праз інфакіёск

**У паліклініках усталёўваюць апараты, праз якія можна запісацца на прыём.**

Інфакіёскі па выдачы талонаў на прыём да дактароў усталяваныя ўжо ў дзевяці мінскіх паліклініках, сярод іх паліклінікі №1, №2, №6, №14, №28, №34, №35. У далейшым такія самыя апараты будуць з'яўляцца і ў астатніх медыцынскіх установах. Як заявіў першы намеснік старшыні камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама Ігар Юркевіч, гэта паспрые скарачэнню чэргаў у рэгістратуру і павышэнню даступнасці медыцынскай дапамогі.

Для заказу талона трэба знайсці ў пераліку патрэбную спецыялізацыю доктара, выбраць дату і зручны час наведвання, увесці сваё прозвішча, дату нараджэння і адрас. Пасля гэтага інфакіёск выдасць талон.

Апараты пакуль не карыстаюцца попытам, бо іх запісваюцца толькі 15% пацыентаў. Рэч у тым, што ніякіх інструкцый па эксплуатацыі няма, таму пенсіянеры не разумеюць, як ім карыстацца.

**ЯМ**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Матэматыка**

Паліклінікі закупляюць інфакіёскі па 40—55 мільёнаў рублёў. Цана на рынку — 20—30 мільёнаў.

## Даронін сышоў ад Кэмпбэл

**І знайшоў сабе чарговую мадэльку.**

Расійскі мільярдэр і старшыня холдынга Capital Group Уладзіслаў Даронін разышоўся са сваёй сяброўкай знакамітай супермадэллю Наомі Кэмпбэл.

Нядаўна сусветныя СМІ абляцелі здымкі, на якіх Даронін забаўляецца з топ-мадэллю Кейт Мос на адным з элітных курортаў. Неўзабаве сама Кейт абвергла гэтыя чуткі, заявіўшы, што паміж ёю і Уладзіславам толькі сяброўства. Цяпер з'явілася інфармацыя, што Даронін усё ж сышоў ад Наомі Кэмпбэл. Гэтым разам разлучніцай стала нейкая расейская мадэлька. Імя дзяўчыны не паведамляюць, аднак кажуць, што алігарх мае намер з ёй ажаніцца.

У свецкім асяроддзі даўно заўважалі інтарэс Дароніна да мадэляў. Да таго, як Уладзіслаў пазнаёміўся з «Чорнай пантэрай», ён пяць гадоў сустракаўся з манекеншчыцай Карэн Шонбахлер.

**Марына Баршчэўская**



### Сцісла

**Украіна аднавіла падрыхтоўку баявых дэльфінаў**

Спецпраграма будзе працаваць у інтарэсах Вайскова-марскіх сіл краіны. Спецыяльна падрыхтаваныя жывёлы ўмеюць знаходзіць зброю і вайсковую тэхніку на дне мора, атакаваць баявых плыўцоў і караблі праціўніка замацаванымі на галаве зброяй і выбухоўкай. На сёння ў свеце існуюць толькі два цэнтры падрыхтоўкі баявых дэльфінаў — гэта база Сан-Дыега ў ЗША і Севастопаль.

**ДАІ спыніла працу з прыватнымі эвакуатарамі**

У Мінску будзе ствараецца муніцыпальная паркавачная служба, але пакуль што эвакуяваць машыны не будзе чым. На балансе ДАІ знаходзіцца толькі 9 эвакуатараў. Раней арганізацыя супрацоўнічала з прыватнікамі, аднак тыя выстаўлялі занадта высокія тарыфы на працу, што выклікала абурэнне ў кіроўцаў.

**ЯМ**

## Чыгунка ўводзіць вагоны, дзе забаронена паліць

**Курыльшчыкі будуць знаходзіцца асобна.**

Новая рэформа Беларускай чыгункі закране аматараў паліць у тамбурах, а таксама тых, хто не хоча пакутаваць ад курыльшчыкаў. З 16 кастрычніка спецыяльныя вагоны, свабодныя ад тытунёвага дыму, з'явіліся ў цягніку Магілёў–Мінск. З 23 кастрычніка да эксперыменту далучыцца цягнік Брэст—Мінск, а з 5 лістапада — Гомель–Мінск і Віцебск–Мінск у абодвух кірунках.

Білеты на гэтыя цягнікі ўжо прадаюцца з улікам новага парадку. Там пазначаныя месцы «для тых, хто паліць», і «для тых, хто не паліць». Раней курыльшчыкі маглі паліць у тамбурах у спецыяльна адведзеных месцах, цяпер яны будуць пазбаўленыя такой магчымасці ў некаторых вагонах.

Перад увядзеннем новай прапановы было праведзенае апытанне сярод кліентаў Беларускай чыгункі. Выявілася, што 42% пасажыраў выступаюць за поўную забарону палення ў цягніках, 25% апытаных прапанавалі раздзяляць вагоны, а 33% чалавек выказаліся за тое, каб пакінуць сітуацыю без зменаў. У выніку быў усё ж абраны кампрамісны варыянт.

**ЯМ**



**Міс Байнэт стала 20-гадовая Паліна Цагалка са Слуцка. Цырымонія ўзнагароджання дзяўчат-фіналістак прайшла ў мінскім клубе Dozari. Паліна атрымала галоўны прыз — калье з дыяментамі з калекцыі Marco Giovanni (Італія).**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН




**Мінскі гей-прайд прайшоў, дакладней праехаў, у трамваі 11 кастрычніка. Праваахоўныя органы акцыі не перашкодзілі. Інфарктаў у сустрэчных і кіроўцаў не зафіксавана.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



**Аўстрыец Фелікс Баўмгартнер скочыў з вышыні 39 км. У часе скоку аўстрыец пабіў тры рэкорды: вышыні скоку, вышыні палёту на паветраным шары і хуткасці свабоднага падзення. Гэта чарговы трыумф чалавека: ягонай сілы волі, навуковага разліку і прагі спазнання.**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**«Белая Русь», саюз ветэранаў і БРСМ правялі агульнагарадскі суботнік 20 кастрычніка. Некаторыя студэнты прызнаваліся карэспандэнтам «НН», што адпрацоўваюць за правіны ў інтэрнаце.**

## Анекдоты

* * *

Працую ў банку. Так падабаецца, калі кліенткі пры запаўненні заявак на крэдыт пішуць у графе дадатковая крыніца даходу «муж».

* * *

— Доктар, мне трэба эфектыўны сродак для пахудання!

— Няма праблем. Я вам прапішу вугаль.

— У парашках або ў таблетках?

— У мяшках. Вагоны будзеце разгружаць!

* * *

Бабуля — унуку:

— А гэтыя імпартныя лекі можаш забіраць, мне ад іх толькі горш робіцца.

— Вядома, забяру... А горш робіцца адразу пасля прыёму?

— Адразу перад прыёмам. Толькі дастаю ўпакоўку і бачу на ёй цэтлік «180 000», дык адразу робіцца горш.

* * *

Прыходзіць да Бога сакратар:

— Да Вас прыйшлі атэісты.

— Скажы ім, што мяне няма.

* * *

У Еўрасаюзе глыбокі крызіс. Нават еўрарамонт замкаў нармальна зрабіць не могуць. А вось у нас у Міры зрабілі прыгожа, не пашкадавалі нават на ліфт.

* * *

Пры дрэсіроўцы кошкі галоўнае — зрабіць выгляд, што вы аддалі менавіта тую каманду, якую яна выканала.

* * *

Журналісты на прэс-канферэнцыі пытаюцца ў Лукашэнкі: Аляксандр Рыгоравіч, як Вы ставіцеся да крытыкі?

Лукашэнка *(задаволена)*: О, я люблю пакрытыкаваць!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Засценак Станулёва. Дзісенскі павет.** Тутэйшыя жыхары наладзілі на магільніку хаваць бульбу. Што ж, добра — пясочак. Але калісь што здарылася мне паглядзець на гэтыя ямы: у ямах часта косці тарчэлі, а ў аднoй і цэлую галаву пабачыў. Сказаў я ім, што гэтак нягожа рабіць, каб дзеці з касцей сваіх бацькоў здзекваліся.

**«НН». №41. 1912.**

**Выхад да Бродаў.** Беларусь мае тэарэтычны шанец правесці на сваёй тэрыторыі новы нафтаправод, па якім каспійская нафта можа цячы ў Еўропу, абмінаючы Расію. Украіна ўклала 200 млн даляраў у пабудову нафтаправода, што злучыў чарнаморскі порт Паўднёвы з горадам Броды. Дабудаваць трубу, па якой каспійская нафта магла б прыйсці ў Беларусь, каштуе 80 млн даляраў.

**«НН». №39. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8120. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 23.10.2012.
Замова №4428.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
ISSN 1819-1614

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12